АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ

*Л. У. Дучыц*

# Археалагічныя помнікі

## ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў

*Пад рэдакцыяй*
*доктара гістарычных навук*
*М. А. ТКАЧОВА*

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1993

# УСТУП

Шмат розных паданняў бытуе ў беларускага народа пра гарады і вёскі, рэкі і азёры. Месцы, дзе калісьці былі старажытныя паселішчы, дзе людзі хавалі сваіх супляменнікаў і адзначаліся язычніцкія святы, засталіся ў народнай памяці: за імі замацаваліся своеасаблівыя назвы. На працягу стагоддзяў назвы мяняліся, на адны наслойваліся другія і так да нашых дзён. Народная памяць для аднаго і таго ж археалагічнага помніка захавала нават некалькі назваў, якія служаць адлюстраван—нем гістарычных падзей і светаўспрымання нашых продкаў.

Зараз добра вядома, што курганы — гэта старажытныя пахаванні, а гарадзішчы — рэшткі ўмацаваных паселішчаў. Раней людзі не заўсёды асэнсоўвалі з'яўленне такіх пагоркаў, але ведалі, што засталіся яны ад продкаў. Там, дзе не мянялася насельніцтва, з пакалення ў пакаленне перадавалася забарона знішчэння даўніны. Асаблівым святатацтвам лічылася разбурэнне курганоў.

На багацце беларускіх народных назваў археалагічных помнікаў і паданні пра іх звярнулі ўвагу ў свой час вядомыя даследчыкі З. Я. Даленга—Хадакоўскі, Я. Ф. Канкрын, Р. А. Друцкі—Падбярэзскі, Р. С. Зянькевіч, браты Я. П. і К. П. Тышкевічы, А. І. Кіркор, У. А. Сыракомля, А. М. Семянтоўскі і інш[1]. Праграмы Цэнтральнага Статыстычнага камітэта 1873 г. па збору звестак пра гарадзішчы і курганы ўключалі пытанні аб мясцовых назвах археалагічных помнікаў і паданнях аб іх[2]. Шмат паданняў сабрана Ф. В. Пакроўскім[3] і Е. Р. Рамановым[4]. У 20—я гады XX ст. такія звесткі збіраліся Інбелкультам (апытальныя лісты 1924 і 1928 гг.) і асабліва этнографам М. В. Мялешкам[5].

Пагром беларускага адраджэння ў 30—я гады на многія дзесяцігоддзі спыніў працу па вывучэнню нашай спадчыны. Народныя назвы археалагічных помнікаў пачалі

толькі часткова падавацца ўжо ў «Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі».

Але ж, вядома, не ўсе назвы і паданні трапілі на старонкі кніг і ў дзённікі навукоўцаў. Носьбітамі такой інфармацыі з'яўляюцца ў асноўным старыя людзі. Яны ўсё адыходзяць і адыходзяць ад нас, а разам з імі трацяцца і паданні, у тым ліку старыя народныя ўяўленні пра старажытнейшыя помнікі.

## 1. МЕСЦЫ СТАРАЖЫТНЫХ ПАСЕЛІШЧАЎ (СТАЯНКІ, ГАРАДЗІШЧЫ, СЕЛІШЧЫ)

На мясцовасці добра вылучаюцца рэшткі ўмацаваных паселішчаў, за якімі ў гістарычнай навуцы замацавалася назва «гарадзішча». Аднак у народзе часцей ужываюцца іншыя назвы.

Умацаваныя паселішчы ўзніклі ў перыяд распаду першабытнаабшчыннага ладу, пры пераходзе грамадства ад палявання, рыбалоўства і збіральніцтва да земляробства і жывёлагадоўлі. Жыццё на такіх паселішчах у асноўным цягнулася з VII ст. да н. э. да III—IV стст. н. э. Ёсць і гарадзішчы — рэшткі гарадоў. На тэрыторыі Беларусі сустракаюцца гарадзішчы, у якіх пляцоўка часта абкружана землянымі валамі і равамі. Усяго гарадзішчаў у рэспубліцы больш за паўтары тысячы і іх плошча звычайна ад 0,2 да 3 га.

Толькі па прыблізных падліках выявілася, што нашы гарадзішчы маюць больш за 150 мясцовых назваў. Амаль пра кожнае гарадзішча можна пачуць паданне. Паданняў шмат, але, нягледзячы на варыянты, іх можна звесці ў асноўным да чатырох сюжэтаў: царква або горад, якія праваліліся ў зямлю; закапаны скарб; месца бітвы падчас якой-небудзь вайны; узвядзенне гарадзішча прыпісваецца каму-небудзь з гістарычных асоб або захопнікам (татарам, шведам, французам), якія насыпалі гару шапкамі ці ботамі. У паданнях звычайна ўказваецца, што царква правалілася ў час службы, і бытуюць павер'і, што нібыта ў нядзелю (або ў якое-небудзь свята), калі прыкласці да зямлі вуха, можна пачуць гукі званоў. У паданнях пра закапаныя скарбы часцей за ўсё прысутнічае каштоўны (сярэбраны) посуд, грошы ці карэта з золатам. Гаворачы пра месца бітвы, звычайна згадваюць «старадаўнюю вайну», вайну са шведамі, французамі ці бойку князёў. Узвядзенне гарадзішчаў прыпісваецца польскім каралям, езуітам, царыцы Кацярыне II, каралеве Боне і інш. Напрыклад, у в. Лужкі Шаркоўшчынскага раёна Віцебскай вобласці расказваюць, што гарадзішча засна-

ваў ваявода Жаба. У г. п. Свір Мядзельскага раёна народ лічыць, што гарадзішча насыпана салдатамі польскага караля Жыгімонта. У Ашмянскім раёне адно з гарадзішчаў нібыта ўзведзена ў 1812 г. па загаду рускага генерала, прычым зямлю салдаты насілі ботамі.

Шматлікія паданні існуюць і пра паходжанні гарадоў. Напрыклад, згодна паданням, Мінск быў заснаваны асілкам Менескам, які быццам бы прыйшоў з Польшчы, Пружаны — каралевай Бонай, Тураў — князем Турам, Брэст — купцом, які заблудзіўся, і інш.

Асаблівую цікавасць уяўляюць назвы і паданні, з якіх ланцужок цягнецца ў часы язычніцтва і дазваляе ў некаторых гарадзішчах бачыць месцы капішчаў. Напрыклад, у г. п. Свір гарадзішча вядома пад назвай Капішча Перуна, каля Нясвіжа — Перунова гара. Пра нясвіжскую гару існуе паданне, што там стаяў княжацкі замак, які згарэў ад удару маланкі. Надзвычай цікавае паданне вядома пра гарадзішча, што паблізу в. Сынкавічы Зэльвенскага раёна. Згодна паданню, у паўднёва-ўсходнім куце пляцоўкі гарадзішча ў поўдзень і ў поўнач збіраліся д'яблы і пелі пасквільныя песні. Паблізу ж, на «Страпчым Пераводзе», часта здараліся забойствы і рабункі, а ў суседняй карчме, на гары, падарожнікам прадавалі чалавечае мяса. За такое ксёндз разам з насельніцтвам пракляў гэтую мясцовасць і тады тут утварылася яма, што вяла ў бездань, з якой часамі даносіліся рыканне жывёл і д'ябальскія стогны. Пасля гэтага ўсе мясцовыя жыхары разбегліся і пасяліліся ў іншых месцах.

У Мастах у Гродзенскай вобласці вядома паданне, нібыта ў пячоры жыў пустэльнік, які існаваў за кошт міласціны на суседняй дарозе. Звычайна ён выходзіў на дарогу са сваім столікам і маліўся каля яго, пакуль не заўважаў, што хто-небудзь набліжаецца па дарозе, а тады бег у лес, пакідаючы столік на дарозе. На гэты столік людзі і складалі свае ахвяры пустэльніку.

З прыведзеных паданняў вынікае, што гэтыя помнікі звязаны з месцамі адпраўлення язычніцкіх культаў. У першым выпадку «збіраліся д'яблы і пелі пасквільныя песні». Прысутнасць ксяндза, які змагаўся з людажэрствам (чалавечымі ахвярапрынашэннямі), сведчыць пра тое, што паданне адлюстроўвае падзеі першых стагоддзяў прыняцця хрысціянства, часоў, калі знішчаліся язычніцкія капішчы. У другім паданні прысутнасць стала для ахвярапрынашэнняў і пустэльніка можна параўноўваць

з месцам язычніцкага капішча і яго святаром. З месцамі правядзення язычніцкіх святаў можна звязваць і тыя гарадзішчы, у паданнях аб якіх гаворыцца, што яны рабіліся для гулянняў і там уладкоўваліся балы.

У гэтай сувязі цікавасць уяўляюць назвы гарадзішчаў накшталт Чортава Гара, Чортаў Гарадзец, Дымакуры, Капавішча і інш.




Мал. 1. Распаўсюджванне назваў Гарадок і Замак для гарадзішчаў

Самымі распаўсюджанымі з'яўляюцца назвы гарадзішчаў Гарадок, Гарадзішча, Гарадзец. Картаграфаванне такіх назваў паказала, што мікратапонім Гарадок бытуе ў асноўным ва ўсходняй Беларусі, а астатнія распаўсюджаны даволі раўнамерна па тэрыторыі рэспублікі. Заўважаецца і такая з'ява, калі назвы археалагічных помнікаў замацоўваюцца за населенымі пунктамі. Напрыклад, у г. п. Гарадзішча на Брэстчыне ва ўрочышчы Гарадок знаходзіцца археалагічны помнік — рэшткі ўмацаванага паселішча (гарадзішча). Ёсць і назвы вёсак Гародня, Гарані, Гуры і інш. Асабліва шмат назваў вёсак

Гарадзішча і Гарадок на Віцебшчыне. Наогул назва Гарадзішча шырока распаўсюджана і ў іншых месцах Усходняй Еўропы — у Кіеўскай, Наўгародскай, Уладзімірскай абласцях, Прыураллі[1]. Часта назвы Гарадок і Гарадзец маюць дапаўненні — Ніжні Гарадок, Малы Гарадок, Асінгарадок, Мсцібаў Гарадок і інш. Дарэчы, назва Мсцібаў Гарадок сустракаецца ў дакументах XV—XVI стст. Мікратапонімы тыпу Гародна, Гарадкі, Гарадцы, Гарадзінка сустракаюцца ў дакументах XV—XVII стст. Так, ужо ў XV ст. Полацкае гарадзішча ў дакументах запісана як Стары Горад або Старое Гарадзішча[2]. У дакументах XVII ст., якія тычацца межавання зямель, як арыенціры ўказваюцца, напрыклад, Гарадок на Ушачы, Малы Гарадок, Гарадзец, Гарадзішча і інш[3]. Даволі часта сустракаюцца гарадзішчы пад назвамі Гара ці Гара з рознымі дапаўненнямі, як, напрыклад, Чорная Гара, Французская Гара, Шведская Гара, Мартынава Гара, Дзявочая Гара і інш.

У заходнім Палессі сустракаюцца назвы гарадзішчаў Груда, Грудок, Грудкі, а таксама Востраў, Выспа. Для паўднёвай Беларусі характэрныя назвы Акоп, Акопы, Акопішча, для паўночнай — Батарэя. З назвамі Акоп звязаны паданні, у якіх расказваецца, што на гэтым месцы адпачывала і абедала імператрыца Кацярына II разам са сваім войскам, а калі яны адыходзілі, то закапалі тут шмат грошай і посуду.

На тэрыторыі Беларусі зафіксавана восем гарадзішчаў з назвамі Талерка (Тарэлка). Гэтыя помнікі адносяцца да ранняга жалезнага веку і да эпохі феадалізму. Амаль усе гарадзішчы маюць валы і равы. Сярод мясцовага насельніцтва лічыцца, што такую назву гарадзішчы атрымалі ад падабенства з посудам — талеркай. Хутчэй за ўсё так і ёсць. Назва посуду «талерка» з'явілася не раней XVI ст[4]. Такім чынам, назва гарадзішча магла ўзнікнуць таксама не раней XVI ст. На Браслаўшчыне адно з гарадзішчаў носіць назву Тарылава. Яно без валоў і равоў. Пра гэты помнік вядома паданне, згодна якому ў гары закапаны каштоўны посуд.

На пагранiччы з Літвой зафіксаваны балцкія назвы гарадзішчаў накшталт Пакальніс, Піля, Пілікала. Такія назвы паходзяць ад літоўскага слова «пілікальніс», што значыць гара, гарадзішча.

Па ўсёй Беларусі ёсць назвы гарадзішчаў або іншых помнікаў — Прыстань. Такія назвы, як правіла, сустра-

каюцца на гандлёвых шляхах. Напрыклад, на адным з гарадзішчаў з такой назвай каля в. Хільчыцы Жыткавіцкага раёна па паданні стаяў горад, побач было мора і да горада падыходзілі караблі.

Некалькі гарадзішчаў на Палессі называюцца Рудавец. Такія назвы хутчэй за ўсё можна звязваць з месцамі здабычы балотнай руды. Часта сустракаюцца назвы гарадзішчаў Замак і да яе падобныя — Замкавая Гара, Замчышча, Замкавішча, Замэчак, Замчыска. Гарадзішчы з такімі назвамі распаўсюджаны на лініі Брэст — Віцебск. Часцей за ўсё гэтыя помнікі маюць культурныя пласты феадальнай эпохі. Прычым для помнікаў позняга сярэднявечча характэрныя назвы Замчышча, Замкавішча. Наогул, слова «Замак» было перанята з польскай мовы і яго з'яўленне на тэрыторыі Усходняй Еўропы лічыцца познім[5]. Але адносна тэрыторыі Беларусі можна гаварыць пра з'яўленне такога наймення ўжо ў XIV ст. Паводле М. Стрыйкоўскага, князь Альгерд у Віцебску ўмацаваў Верхні замак мураванай сцяной і баштамі і прыаздобіў яго палатамі. Адносна да ўмацаванняў часоў Лівонскай вайны на Віцебшчыне слова замак мела ўжо афіцыйнае значэнне[6]. Слова замак сустракаецца ў дакументах XVII ст. Напрыклад, у дакументах 1694 г. каля Брэста ўжо згадваецца гарадзішча пад назвай Старое Замчыска[7].

Не раней эпохі феадалізму маглі ўзнікнуць мікратапонімы тыпу Дварэц, Дварышча, Царкавішча (Царковішча), Царкоўна, Званіца, Манастыр. Асабліва распаўсюджана назва Царкавішча, але яна найбольш характэрная для паўночнай і цэнтральнай Беларусі. Як паказваюць назіранні, сапраўды яшчэ на памяці старажылаў на многіх такіх гарадзішчах стаялі храмы. Вядома таксама, што ў першыя стагоддзі пасля прыняцця хрысціянства, калі ішла барацьба з язычніцтвам, цэрквы часцей за ўсё ўзводзіліся менавіта на месцах разбураных язычніцкіх капішчаў. Пра гэта гаворыцца нават у летапісах[8]. Так што ў гарадзішчах з назвамі Царкавішча можна бачыць і рэшткі былых месцаў адпраўлення язычніцкіх культаў. Магчыма, у некаторых мясцовасцях удасца яшчэ пачуць для якога-небудзь з такіх помнікаў і больш ранні мікратапонім. Пра гарадзішчы з назвамі Царкавішча шырока распаўсюджаны паданні пра царкву, якая правалілася ці затанула. Цікавая легенда зафіксавана ў Шклоўскім раёне. Адно з гарадзішчаў, якое

завецца Царкавішча, мае наваколле з назвай Гарадок. Бытуе паданне пра царкву, якая правалілася, і пра тое, што ў вялікія святы тут чутны званы, а на Вялікдзень на паверхню выходзяць залатыя вароты. Але ўсё гэта могуць убачыць толькі «дастойнейшыя са старых»[9].

Не выпадковыя назвы накшталт Братнія Магілы, Касцяная Гара, Могіліцы (Моглiцы), Магільна. На такіх гарадзішчах, асабліва на Гродзеншчыне, яшчэ і сёння можна ўбачыць сляды познесярэднявечных могілак. Сустракаюцца і гарадзішчы, асабліва позняга сярэдневякоўя, на пляцоўках якіх зараз агароды. Гэтым можна вытлумачыць назвы Селішча, Высокае Поле, Голішава Поле, Мартынава Гара і інш.

Бывают таксама і гарадзішчы з назвамі Курган, напрыклад Рагнедзін Курган у Расонскім раёне. Ёсць Агромны Курган, Змееў Курган і інш. Як вынікае з праведзенага картаграфавання такіх назваў, іх большая частка знаходзіцца ва ўсходняй і паўднёва–ўсходняй Беларусі. Слова «курган» цюркскага паходжання і азначае «ўмацаваны ўзгорак». Вядома, што ў Расіі яно з'явілася не раней XVI ст. Хутчэй за ўсё гэту дату з'яўлення такога слова можна лічыць і для Беларусі. Ужо ў 1576 г. аўстрыйскі пасол Даніэль фон Бухаў, праязджаючы праз Беларусь, пры апісанні земляного ўзвышша адзначае, што мясцовае насельніцтва называла яго Курган.

У народзе не толькі гарадзішчы вядомыя як сляды старажытнейшых паселішчаў. Народная памяць захавала і сляды неўмацаваных паселішчаў розных часоў. Аналізуючы народныя назвы помнікаў даўніны, можна заўважыць, што, напрыклад, для стаянак каменнага і бронзавага вякоў на паўднёвым усходзе Беларусі характэрны назвы Бугор (Ліпавы Бугор, Аўрамаў Бугор), Груда, Грыва, а таксама сустракаюцца назвы, якія дубліруюць назвы іншых археалагічных помнікаў — Гарадок, Селішча, Курган, Царкавішча, Плітніца, Прыстань і інш.

Самай распаўсюджанай назвай месцаў паселішчаў ранняга жалезнага веку з'яўляецца Селішча, а месцаў паселішчаў эпохі феадалізму — Старое Сяло, Старасселле, Царкавішча. Ёсць і іншыя — Замікальшчына, Ігрышча, Сялецкі Роў, Пасадскае. Аднак паданняў пра гэтыя мясціны амаль не дайшло да нас.

## 2. МЕСЦЫ СТАРАЖЫТНЫХ ПАХАВАННЯЎ
(курганы, бескурганныя могільнікі, каменныя магілы, жальнікі)

У Беларусі налічваецца больш за 6 тыс. курганных могільнікаў, а таксама вядома шмат бескурганных (грунтавых) пахаванняў розных эпох (ранніх — па абраду трупаспалення, позніх — па абраду трупапалажэння). На правабярэжжы Нёмана распаўсюджаны так званыя «каменныя магілы»[1], у Віцебскай вобласці — «жальнікі». Гэтыя магілы грунтавыя, зверху абкладзеныя камянямі.

Асаблівай павагай у народзе карыстаюцца курганы — насыпы над магіламі нашых продкаў. Прынамсі, курганы вядомы на ўсіх кантынентах, акрамя Аўстраліі. На тэрыторыі паўднёвай Беларусі курганы з'явіліся ў эпоху бронзы (Ходасавічы, Прыбар) і ранняга жалезнага веку (Вылазы, Дубой). Асноўная маса курганных могільнікаў адносіцца да канца 1-га — пачатку 2-га тысячагоддзя. Але вядомы і курганы позняга сярэднявечча (Чамяры, Чурылава, Васілевічы, Забалоцце і інш.)[2].




Мал. 2. Распаўсюджванне назваў Валатоўкі і Капцы для курганоў

Звычайна ў курганніках налічваецца ад 10 да 100 насыпаў. Сустракаюцца і адзіночныя курганы. Па прыблізных падліках на Беларусі вядома каля 100 народных назваў курганных могільнікаў. Пры гэтым вылучаюцца найбольш распаўсюджаныя назвы — Капцы[3] і Валатоўкі[4], а таксама даволі частымі з'яўляюцца Французскія Магілы, Шведскія Магілы, Курганы і некаторыя іншыя (дадатак). Звычайна першыя назвы (Капцы, Валатоўкі) і другія (Французскія Магілы і інш.) дублiруюцца. Даволі распаўсюджаны назвы, атрыманыя ад слоў капцы і валатоўкі — Скапцы, Сапцы, Падкапцы, Вілатоўкі, Талатоўкі, Калатоўкі, Малатоўкі, Латоўкі і інш.

Часта ў народзе лічаць курганы магіламі (або ўмацаваннямі) ад якіх-небудзь «старадаўніх» войнаў. Гавораць, што курганы — гэта «старыя славянскія магілы», «язычніцкія магілы», «магілы з часоў Івана Грознага», «старажытныя магілы воінаў», «магілы, насыпаныя ў час вайны з сасамі»[5] і інш. Бывае, што курганы звязваюцца з пахаваннямі памерлых ад чумы або ад голаду. Пры картаграфаванні выявілася, што назва Капцы распаўсюджана на тэрыторыі амаль усёй рэспублікі і толькі на Палессі яны адзінкавыя. Назва Валатоўкі характэрна ў асноўным для басейна Заходняй Дзвіны. Цікава адзначыць і той факт, што менавіта там сканцэнтраваны таксама гідронімы Волата, Валатоўка. Тут частыя прозвішчы з асновай волат. Вядома і старажытная дарога пад назвай Волатава Грэбля[6]. Ёсць выпадкі, калі адзін і той жа курганны могільнік называюць і Валатоўкі і Капцы. У некаторых мясцовасцях Віцебшчыны Валатоўкамі называюць нават сучасныя могілкі[7].

З. М. Сяргеева лічыць, што тэрмін «капец» звязаны з балцкім этнасам, тэрмін «валатоўка» — са славянскім[8]. Даследчыца мае рацыю. Сапраўды, назва Валатоўкі звычайна атаясамліваецца з курганнымі могільнікамі па абраду трупапалажэння, г. зн. з курганамі XI—XII стст., калі ўжо амаль паўсюдна на Беларусі былі славяне. Па даных некаторых даследчыкаў, назва Валатоўка (Валатоўкі) сустракаецца і на тэрыторыі Наўгародскай, Смаленскай, Кіраўскай абласцей, на Доне, ва Усходняй Латвіі, у Ліпецкай вобласці і нават у Сібіры, што тлумачыцца пазнейшымі міграцыямі туды беларускага насельніцтва[9]. Паданні пра волатаў вядомы на ўсёй тэрыторыі ад Балтыйскага мора да Каўказскіх гор. Фалькларысты прыйшлі да высновы, што гэтыя па-

данні ўваходзяць у глыбіню ірана-цюркскага эпасу і звязаны з родавым культам продкаў[10]. Волаты часам лічацца не толькі асілкамі, продкамі, але і пасрэднікамі паміж жывымі і богам Воласам (Велесам)[11]. Ёсць падставы меркаваць, што слова «волат» было вядома ўжо ў пачатку нашага тысячагоддзя. Старажытнарускія летапісы згадваюць Валатовіцы, Волатава[12]. Ужо да XV ст. адносіцца «Повесть о Волоте Волотовиче»[13], а назвы курганоў Валатоўкі зафіксаваны дакументамі XVI—XVII стст., асабліва тымі, дзе размова ідзе пра межы зямель. Тут валатоўкі выступаюць у якасці арыенціраў. Напрыклад, «...первое поле лежит на выгоне подле «волотовок» ці «... урочище Волотовки за рекою Двиною», або «...Волотовка Борисовская...», або «...которая (граница) з Улы до Оболи и до Шатилова до копъцовъ и волотовок по правой стороне тое дороги...»[14]

Вобраз волата (асілка) з'яўляецца галоўным персанажам беларускіх паданняў і казак, якія ўвабралі ў сябе матывы былін IX—XII стст. Волаты звычайна паказваюцца героямі, якія выкарчоўваюць дрэвы і перакідваюцца вялізнымі камянямі. Напрыклад, каля Ваўкавыска жыхары расказваюць, што калісьці на месцы курганоў стаялі войскі. Раптам сярод аднаго з атрадаў з'явіўся велікан, вырваў з зямлі дуб з карэннямі і перабіў усіх салдат, якіх і пахавалі пад курганамі.

У літаратуры сустракаюцца розныя тлумачэнні паходжання слова волат. У. І. Даль тлумачыць гэта слова як абазначэнне старажытных веліканаў, рэшткі якіх народ бачыць у касцях жывёл. Ён таксама згадвае сібірскія паданні пра народ волатаў, які нібыта ўвайшоў у зямлю[15]. Ф. В. Пакроўскі лічыць, што назва Валатоўкі ўзнікла ад слова «валачыць, звалаківаць, звозіць, ссыпаць зямлю ў адно месца[16]». Ю. Г. Пісарэнка слова волат атаясамлівае з «пучком каласоў»[17].

Асаблівая цікавасць да слова валатоўкі была ў 20-я гады XX ст. Тады нават узнікла так званая волатакрыўская тэорыя, згодна якой беларусы бяруць свой пачатак ад легендарных волатаў, атаясамліваемых з велетамі Пталамея. Згодна гэтай тэорыі, усе назвы з асновай волат звязваліся з межамі тэрыторыі крывічоў[18].

Акрамя шырокараспаўсюджаных назваў курганоў сустракаюцца і цікавыя адзінкавыя мікратапонімы, як, напрыклад, Княжае кладбішча, Бедныя Магілы, Калечыя

Магілы, Латышы, Панскія Магілы, Магілы жрацоў–крывейтаў і інш. У раёнах паўночна–ўсходняй Віцебшчыны ў наш час З. М. Сяргеева налічыла 17 курганных могільнікаў з назвамі Сопкі[19].

Сустракаюцца помнікі, дзе бывае два курганы або нават адзін курган. Як правіла, такія археалагічныя помнікі вылучаюцца ў народзе і пра іх вядома больш разнастайных назваў і паданняў. Могільнікі з двух насыпаў называюць Княгінкі, Князевы Горы, Пабядзінец. Адзінкавыя курганы ёсць пад назвамі Княжая Магіла, Княжая Гара, Волатава Магіла, Аленіна Магіла, Кацярынін Курган, Капітанка, Кудычка і інш.

На Лепельшчыне пра два курганы, вядомыя пад назвай Княгінкі, існуе паданне, у якім расказваецца, што князь пайшоў на вайну, а жонка яго не дачакалася і выйшла замуж. Калі князь вярнуўся, то забіў і жонку і сябе. Людзі пахавалі іх і над магіламі насыпалі вялізныя курганы. У канцы XIX ст. археолаг М. Ф. Кусцінскі раскапаў гэтыя насыпы. У адным з іх быў жаночы касцяк, на якім захаваўся скураны пояс, усыпаны меднымі бляшкамі (на думку даследчыка, XV—XVI стст.), на руках — два бранзалеты. У другім кургане быў мужчынскі касцяк з кап'ём і сярэбраным паўгрошам Жыгімонта II Аўгуста (1562 г.) на лобнай костцы[20].

Вялізны курган каля Пінска сярод мясцовага насельніцтва мае назву Магіла Міндоўга ці Магіла Войшалка. Як вядома, Войшалк быў сынам Міндоўга і пасля забойства жмудзінамі свайго бацькі хаваўся ў Ляшчынскім кляштары каля Пінска. Ю. У. Кухарэнка раскапаў гэты курган і выявіў тут пахаванне канца X — пачатку XI ст., зробленае па абраду трупаспалення. Даследчык на падставе знаходак прыйшоў да высновы, што гэта пахаванне нейкага славянскага князя або начальніка княжацкай дружыны[21]. На Пружаншчыне вядомы курган пад назвай Капітанка. У паданні пра яго гаворыцца, што на гэтым месцы адбылася бітва і ў кургане пахавалі забітага капітана. Пра адзін з курганоў на Гродзеншчыне расказваюць, што там пахаваны з усім сваім багаццем апошні правадыр яцвягаў, які загінуў у бойцы з палякамі. У другой мясцовасці ўзвядзенне кургана прыпісваецца дзікаму і ваяўнічаму племені — «аднавокім камлукам». Магчыма, гэта адлюстраванне падзей, у якіх удзельнічалі калмыкі. Як вядома, рускі ўрад выкарыстоўваў іх у войнах XVII—

XVIII стст. У паданні пра адзін з кurганоў на Мазыршчыне расказваецца, што калісьці ехалі дзве пары маладых — адна ад шлюбу, а другая да шлюбу. Па звычаю нельга зварочваць з дарогі. Узнікла спрэчка, затым і бойка, у якой абедзве пары маладых былі забіты і іх пахавалі пад курганом. Пра курган каля в. Галічы Клімавіцкага раёна кажуць, што гэта след бітвы войск шведскага караля з войскамі Пятра І у 1708 г. і што побач на р. Сuроўцы загінула звыш 300 рускіх воінаў.

У Горацкім раёне пра адзін з кurганоў расказваюць, што бачылі, як з яго з'язджае коннік на белым кані, часам збягае на дарогу белы бык. Паблізу в. Моладава Іванаўскага раёна курганы, выцягнутыя ў ланцуг, знаходзяцца ва ўрочышчы пад назвай Пагоня. Па мясцоваму паданню, у гэтым месцы гетман Вялікага княства Літоўскага Міхаіл Агінскі збіраў свае раці супраць шведаў, і ў канцы курганнага ланцуга на высокім пясчаным бугры гетман стаяў з булавой.

Урошчы, дзе знаходзяцца грунтавыя могільнікі, каменныя магілы і жальнікі, таксама, як правіла, адзначаны ў народзе сваімі мікратапонімамі накшталт Паганскія Магілы, Баярскія Магілы, Плітніца, Старыя Клады і інш. На Гродзеншчыне паходжанне каменных магіл, як і іншых археалагічных помнікаў, часта звязваецца з войнамі з татарамі, шведамі або французамі. На Віцебшчыне жальнічныя могільнікі, як з валунамі, так і з каменнымі крыжамі, звычайна называюць Галодны Могільнік і звязваюць з пахаваннямі людзей, якія памерлі ў часы вялікага голаду. Магчыма, такія павер'і і ідуць з часоў XVI ст., калі Віцебшчына была спустошана падчас Лівонскай вайны (1558–1583 гг.). 15 лютага 1563 г. Іван Грозны ўзяў Полацк, вялікія спусташэнні рабіліся рускімі войскамі і каля Віцебска, Дуброўны, Оршы, Копысі, Шклова.

Назвы урочышчаў Магіліца, Магілішча, Магілка, Магілічкі, Магільніца і іншыя сустракаюцца ў старых беларускіх пісьмовых крыніцах[22]. Зафіксавана па некалькі выпадкаў, калі грунтавыя могільнікі знаходзяцца ва ўрочышчах пад назвамі Гарадзішча, Селішча, Валатоўкі. Слядоў менавіта такіх помнікаў тут не знойдзена. Хутчэй за ўсё гэтыя назвы замацаваліся з тых часоў, калі недзе побач сапраўды былі гарадзішчы, селішчы або курганы.

## 3. КУЛЬТАВЫЯ КАМЯНІ

На тэрыторыі Беларусі захавалася звыш 200 сакральных (культавых) валуноў. Некаторыя з іх атаясамліваюцца з людзьмі, акамянелымі за працу на Вялікдзень, або з вяселлямі, якія нібыта сустрэліся з лютым змеем і былі ім пракляты. Па паданнях пад аднымі камянямі закапаны скарбы, каля другіх у поўнач скачуць чэрці. Многія камяні ў народзе лічацца лекавымі. У адных выпадках для лекавых мэт выкарыстоўваюцца кавалачкі каменя, стоўчаныя ў парашок, у другіх — дажджавая вада з выемак, у трэціх — дапамагае мох з каменя, а ў некаторых месцах лічыцца дастатковым толькі дакрануцца да каменя. Культавыя валуны вядомы таксама ў азёрах і рэчышчах. Як правіла, такія камяні авеяны паданнямі і маюць спецыфічныя назвы накшталт Вялікі Камень, Божы Камень, Божы Слядок, Святы Камень і інш. Самымі распаўсюджанымі з'яўляюцца камяні-следавікі. Звычайна гэта невялікія валуны, выемкі на якіх нагадваюць сляды чалавека (на адным камяні ад аднаго да трох) ці радзей — якой-небудзь жывёліны (аленя, зайца, мядзведзя, лісіцы, ваўка, быка). Часцей за ўсё гэта прыродныя паглыбленні, сустракаюцца таксама зробленыя рукой чалавека. Следавікі ў асноўным вядомы на тэрыторыі Падзвіння, Верхняга Падняпроўя і ў цэнтральнай Беларусі. У народзе такія камяні называюць Божы След, След Божай Маці, След Хрыста, След Чорта і інш. Асабліва цікавы следавік знаходзіцца на могілках каля в. Сянежычы Навагрудскага раёна. Тут два слядкі. Адзін слядок нібыта пакінула Багародзіца, другі — чорт, які гнаўся за ёй, але не дагнаў, паколькі яна схавалася ў кляштары і адтуль пачала рабіць цуды. Па іншаму паданню, слядкі на гэтым камені пакінулі шведы, каб паказаць, куды яны накіроўваюцца[1].

Дажджавая вада са слядка па павер'ях дапамагае ад розных хвароб. Следавікам яшчэ і ў наш час носяць ахвяры — манеты, зеляніну, кветкі, мёд, раней насілі сувоі, воўну, ставілі свечкі. Амаль да нядаўняга часу да такіх следавікоў на царкоўныя святы хадзілі працэсіі. Дарэчы, камяні-следавікі вядомы ва ўсім свеце. Ім пакланяліся яшчэ старажытныя егіпцяне, грэкі і рымляне[2]. Вучоныя прыйшлі да вываду, што такая з'ява — праяўленне старажытнейшага культу бога Сонца, якое ідзе па светастварэнню, прыносіць святло і ўрадлівасць.

З распаўсюджаннем хрысціянства царкоўнікі прыстасавалі язычніцкія культы да сваіх мэт. Так з'явіліся паданні аб слядках Божай Маці і розных святых. Старыя вераванні прынялі толькі іншую форму. Пра следавікі на Беларусі зафіксавана шмат паданняў. У некаторых фігуруе Хрыстос, у некаторых — Божанька. Слядкі яны нібыта пакінулі, калі хадзілі па зямлі. У частцы паданняў гаворыцца пра слядкі Багародзіцы. Ёсць слядкі Багамацеры, Багамацеры з прадвечным немаўляткам і Святой дзевы, якая пакінула след, калі ішла ў Іерусалім з малым Хрыстом на руках. У некалькіх выпадках след звязваецца з дзяўчынай–волатам, якая пераступіла раку, але спаткнулася аб камень. Вядомы паданні, дзе фігуруе святы Мікалай, д'ябал–абжора, анёлак. Святы Мікалай пакінуў след, калі ішоў у царкву паказваць цуды, д'ябал пакінуў след, калі прарок Ілля гнаў яго з зямлі, а анёлак — калі спускаўся з неба.

Каля в. Дзякшняны паблізу Радашковічаў след на камені лічыцца следам залатога аленя. У паданні гаворыцца, што калісьці сонца свяціла круглы год і камяні былі гарачымі і мяккімі. Тады бегаў залаты алень шчасця. Там, дзе ён пакідаў свой след, астывала зямля, і ўсё, што было на ёй, набывала цудадзейную моц. Каля в. Журавец Асіповіцкага раёна да пачатку 70–х гадоў ляжаў камень са следам мядзведзя, ваўка, зайца і лісіцы. Паданне гаворыць, што гэты камень калісьці быў мяккім, і кожны звер, які прабягаў побач, пакідаў на ім свой след. Акрамя таго, ёсць следавікі, паданні пра якія звязаны з закапанымі пад каменнямі скарбамі. Звычайна скарб — гэта гаршчочак з грашыма ці золатам.

На Беларусі вядома звыш 10 вялізных валуноў, якія называюцца Кравец. Часта гэтая назва дублюецца і з назвамі Сцяпан, Змееў Камень, Чортаў Камень, Гомсін Камень і інш. Згодна падання, гэтыя камяні шылі адзенне ці боты. Але потым іх абразілі і яны перасталі шыць. Ёсць камяні, якія лічацца акамянелымі хатамі краўцоў або шаўцоў. Хаты акамянелі таму, што іх гаспадары працавалі на Вялікдзень. Даволі часта можна пачуць паданні, што камяням вечарам прыносілі тканіну і прасілі пашыць новае адзенне, а ўжо раніцай заказ быў гатовы. Але аднаго разу нейкая п'яная жанчына папрасіла камень пашыць ёй «ні тое, ні сёе». Раніцай, прыйшоўшы па заказ, яна ўбачыла на камені світку, у якой адзін рукаў быў на месцы, а другі прышыты да падолу. З тых часоў камень

перастаў шыць. У в. Куранец Вілейскага раёна нібыта на месцы каменя калісьці была хата шаўца Гомсіна (Комсіна). На Вялікдзень, калі ўсе пайшлі ў царкву, ён вырашыў пашыць дзве пары ботаў замест адной у звычайны дзень. Але набегла хмара, загрымеў Пярун, ударыла маланка, забіла Гомсіна і спаліла яго хату, а на месцы хаты з'явіўся камень. Пра вялізны валун у в. Камень Валожынскага раёна расказваюць, што на месцы каменя даўным-даўно стаяла хата шаўца. Боты, якія шыў майстра, можна было насіць 15 год і чым часцей бываць на ігрышчах, тым лепш, але варта было пайсці ў царкву, як боты адразу ж развальваліся. Царкоўнікі ўбачылі ў шаўцу злога духа, праклялі яго, а хата ператварылася ў камень. У другім паданні пра гэты помнік гаворыцца, што камень нёс д'ябал, які надумаў заваліць дзверы святыні (храма). Але раптам праспяваў певень і д'ябал выпусціў камень[3].

Паданні пра некаторыя камяні звязаны са скокамі чарцей у поўнач. Напрыклад, у в. Наўгароды Мёрскага раёна расказваюць, што каля каменя-следавіка, які раней ляжаў на ўзгорку, у поўнач не толькі з'яўляліся чэрці, але здараліся і розныя цуды, а праязджаючыя каля каменя заўжды збіваліся са шляху. Ёсць шмат валуноў, якія, згодна паданняў, уяўляюць сабой акамянелых людзей і жывёл. Звычайна гэта акамянелы араты за працу на Вялікдзень або жанчына, якая скамянела таму, што азірнулася, калі Хрыстос забараніў ёй гэта рабіць, або акамянелыя веселлі, якія не саступілі адно другому дарогі ці сустрэліся з лютым змеем, што, не дачакаўшыся прывітання, пракляў веселлі і ўсіх яго ўдзельнікаў ператварыў у камяні.

Часта сустракаюцца камяні з рознымі паглыбленнямі (карытападобнымі, міскападобнымі, цыліндрычнай, канічнай і іншых форм). Напрыклад, адзін з камянёў на Гродзеншчыне называецца Чортавы Дучкі. Паданне гаворыць, што на гэтым месцы звычайна збіраліся чэрці і гулялі, качаючы па ямках шарыкі. Роўна ў поўнач раздаваўся віск і грукат. Пра камяні з адтулінай на старым Даўгінаўскім тракце расказваюць, што калі чорт быў малады, то не дбаў пра сваю гаспадарку, а пад старасць ніхто не захацеў яго карміць і чорту самому прыйшлося здабываць сабе ежу. Зрабіў ён з каменя жорны і паклаў іх на воз. Конь цягнуў воз, змарыўся і прыпыніўся. Чорт пачаў біць каня, а той узяў і скінуў жорны ў роў. На

Сенненшчыне пра тры камяні вядома паданне такога зместу: пад адным каменем зарыты забіты асілкам змей, пад другім — ход на той свет, на трэцім камені— сляды багатырскіх рук, якія адбіліся ў той час, калі ён кідаў камень у ворага.

Даволі распаўсюджаны сюжэт паданняў пра камяні, калі два хлопцы былі закаханы ў прыгажуню, а яна ставілася да іх аднолькава. Хлопцы настойвалі на выбары, і прыгажуня сказала ім, каб яны з аднолькавай адлегласці беглі да яе і хто першы прыбяжыць, за таго яна і пойдзе замуж. Хлопцы прыбеглі разам. Тады ўдарыў Пярун і забіў усіх траіх. Гэтыя камяні і ёсць надмагільныя пліты. У вёсках Сівіца і Вуглы на Валожыншчыне расказваюць, што таксама два хлопцы былі закаханы ў адну прыгажуню. Дзяўчына сказала: «Хай адзін ідзе ў Івянец і прынясе абаранак, а другі хай ідзе да рэчкі Волкі, зловіць рака і прынясе мне. Хто першы прынясе падарунак, за таго і пайду замуж». Закаханыя прынеслі падарункі адначасова, але, аддаючы іх, адначасова і памерлі. Людзі пахавалі хлопцаў, а дзяўчыну закапалі жывой. Таму на кургане ляжаць тры камяні, растуць дзве сасны, а пасярэдзіне бяроза.

Цікавае паданне і пра так званы Рагвалодаў Камень з надпісам каля в. Дзятлава на Аршаншчыне. Згодна аднаму варыянту, на гэтым месцы адбывалася бітва паміж Рагвалодам і Друцкімі князямі, згодна другому — Рагвалод, вяртаючыся з паходу, адпачываў на гэтым месцы са сваёй дружынай і тут яму сніліся нябожчык бацька Барыс і брат Глеб[4].

Шмат сустракаецца ў рэспубліцы камянёў з высечанымі на іх крыжамі, а таксама каменных крыжоў. Многія з іх знаходзяцца на могілках, але сустракаюцца і на перакрыжаваннях шляхоў, на месцах бітваў, у памяць знамянальных падзей. Каля воз. Сялява тры крыжы — Макараўскі, Маісееўскі і Скарпіён. Згодна паданням, пад першымі двума пахаваны рускія генералы, пад крыжам Скарпіён — французскі генерал. Крыж у Заслаўі нібыта быў пастаўлены на месцы забойства нейкага Федзькі, якога па дарозе забілі рабаўнікі, каб адабраць грошы, якія ён атрымаў за прададзеную карову. З крыжам у в. Мішневічы Шумілінскага раёна звязана паданне пра трагічнае каханне і інш.

На востраве воз. Дрысвяты на Браслаўшчыне ляжаць крыжы. У нашы дні можна пачуць паданне, што калісьці

на гэтым месцы вялікай княгіняй Аленай Іаанаўнай быў пабудаваны храм у гонар трох святых — Святога Васіля, Вялікага Грыгорыя Багаслова і Іаана Златауста. Крыж, які ў XIX ст. стаяў у Мінску на Аляксандраўскай плошчы, нібыта абараняў жыхароў ад эпідэмій, пажараў і іншых няшчасцяў.

Многія камяні звязваюцца з гістарычнымі асобамі: камень, дзе абедаў Напалеон, дзе стаяў штаб Баграціёна, Камень Марыны Мнішак, Кацярынінскі Крыж і інш.

## 4. АГУЛЬНАЕ Ў НАЗВАХ І ПАДАННЯХ

### СУВЯЗЬ ПОМНІКАЎ АРХЕАЛОГІІ З ЯЗЫЧНІЦКІМІ КУЛЬТАМІ

Для гарадзішчаў і курганоў цікавымі з'яўляюцца назвы накшталт Дзявочая Гара ці Дзявочыя Магілы. Дзевінай Гарой калісьці называлася гарадзішча ў Полацку. Пра мсціслаўскае гарадзішча Дзявочая Гара яшчэ і сёння можна пачуць паданне, згодна якому на гары даўным-даўно жыў багаты пан і ў яго ад зары да зары працавалі адны толькі маладзенькія дзяўчаты. Аднойчы ён загадаў нанасіць у прыполах з рэчкі пяску на цэлую горку. Шмат гадоў працавалі дзяўчаты. Многія з іх нават памерлі ад непасільнай працы. Па іншаму варыянту падання, мсціслаўскае гарадзішча было насыпана дзяўчатамі за адну ноч у час якойсьці вайны.

На Дзявочай Гары (Дзевяці-Гары) паблізу Маладзечна знаходзіцца курганная група і паклонны камень, які завецца Адамаў Камень. У паданні расказваецца, што два хлопцы былі закаханы ў адну дзяўчыну. Яна не ведала, каго выбраць, і сказала, што той, хто першы ўзбяжыць на гару, стане яе мужам. Першым узбег Адам, але тут жа памёр ад разрыва сэрца і ператварыўся ў камень. У Петрыкаўскім раёне вядомы курганны могільнік пад назвай Дзявіц-Магіла. Па паданнях, тут ваявалі жанчыны-воіны. Акрамя таго, на некаторых курганных могільніках самыя вялізныя курганы завуцца Дзявочыя Магілы.

Цікавасць уяўляе і археалагічны комплекс каля в. Сімахі на Аршаншчыне. На ўскраіне вёскі ва ўрочышчы Царкавішча на беразе Дзевінскага возера знаходзіцца гара вышынёй і дыяметрам пляцоўкі да 20 м. На гары на памяці старажылаў стаяла царква. Адсюль і назва Царкавішча. Паміж гарой і возерам курганная група. Раскопкі ў гэтых

месцах не праводзіліся. Але, мяркуючы па знешняму выгляду, гару Царкавішча можна атаясамліваць са старажытнейшым культавым месцам, хутчэй за ўсё звязаным з культам Дзевы (культам сонца і ўрадлівасці). У дадзеным выпадку, як і ў шэрагу іншых, пасля прыняцця хрысціянства на месцы язычніцкага свяцілішча была пабудавана царква. Можна прывесці шэраг прыкладаў сугучных тапонімаў і гідронімаў.

Так, пад Полацкам каля в. Дзявічкі ёсць гарадзішча. Таксама гарадзішча вядома і каля в. Дзявошыцы на Барысаўшчыне. Паселішчы першабытнага чалавека ёсць ва ўрочышчах Дзівінскія Пяскі і Дзівінскія Горы, на беразе р. Дзевіцы і возера Дзевічанскага і інш. У раёне Бешанковіч зафіксавана назва Заходняй Дзвіны як Дзевіна, а адзін з прытокаў Заходняй Дзвіны, упадаючы ў яе каля Полацка, завецца Дзевінка. На Полаччыне каля воз. Цётча вядома язычніцкае капішча і побач у возера ўпадае р. Дзіва. Такіх прыкладаў можна прывесці шмат. З культам Дзевы звязана і некалькі камянёў — Дзявічы Камень, Дзявічы След, Дзева–Блюдас, а таксама хутчэй за ўсё і камяні–следавікі, вядомыя пад назвамі След Валатоўны, След Багародзіцы і інш.

Назвы, падобныя на назву Дзявочая Гара, ёсць і ў іншых месцах Еўропы. Так, шырока вядома Дзявочая Гара каля с. Сахноўка на Кіеўшчыне. Матывы паданняў пра Дзявочую Гару фалькларыстамі лічацца вельмі старажытнымі[1].



Мал. 3. Гарадзішча Замак каля в. Рацюнкі Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці

Назвы шматлікіх помнікаў археалогіі звязаны з Турам. Напрыклад, ёсць гарадзішча Турава Гара, курганы Тур'я, Тур'і Горы, Турава Балота, адзіночны курган — Турскі Курган, бескурганны могільнік — Турска, стаянка Тураўшчына, сакральныя валуны — Туравы Горы. Ёсць і рака — левы прыток Прыпяці — Тур (Тур'я). У Кіеве на беразе р. Пачайны вядома Турава Бажніца, а на тэрыторыі былой Кастрамской губерні паблізу с. Тураўскага вядома Капішча Турава і інш. Таксама існуе шмат тапонімаў з корнем тур[2]. Ушанаванне Тура, стаўшага сімвалам урадлівасці і сонечнага культу, было шырока распаўсюджана ў язычніцкія часы. Пра гэта сведчаць і абрады каляндарных цыклаў, звязаных з ахвярным закланнем быка, і сакральнае значэнне Турава рога[3].

Хутчэй за ўсё і культам урадлівасці і культам сонца звязаны воблік казла (авечкі), чарапы якіх іншы раз знаходзяць у курганах, асабліва на поўначы Беларусі. У вярхоўях Віліі каля в. Курганы паданне пра курганны могільнік звязваецца з казлом, якога нібыта бачылі тут людзі ў поўнач. Але, магчыма, у дадзеным выпадку казёл можа выступаць і ў якасці чорта, паколькі, па балцкіх паданнях, казла стварыў чорт. Тут варта прывесці яшчэ адзін прыклад. На Гродзеншчыне каля п. Сабакінцы (ця-



Мал. 4. Гарадзішча каля в. Войстам Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці

пер Першамайскі) бескурганны могільнік завецца Баранішкі. У той жа час гэты помнік вядомы і пад іншымі назвамі — Дзявіц–Магіла, Чэрнішкі і Дуніч–Магіліцы[4].

Для ўрочышчаў, дзе размешчаны курганы, часта сустракаюцца назвы, якія паходзяць ад слова дуб. Напрыклад, Дубішча, Дубавіца, Дубняк, Дубкі, Задубенне і інш. Як вядома, ва ўсходніх славян дуб лічыўся свяшчэнным дрэвам і быў звязаны з культам продкаў[5]. Цікава падкрэсліць, што знакаміты слонімскі каменны ідал таксама быў знойдзены ва ўрочышчы Дубы, а астрамічаўскі ідал (в. Астрамічава) — ва ўрочышчы Дубовы Грудок. Камень з крыжам каля в. Аляксінічы на Сенненшчыне знаходзіцца ва ўрочышчы Дубовае.

З культам продкаў звязаны таксама і назвы Валатоўкі, што ўжо адзначалася. Да гэтай жа серыі трэба аднесці і адзіную пакуль што назву кurганоў Балваны (Сенненскі раён). З культам продкаў, несумненна, атаясамліваюцца і назвы Дзеднае, Дзедаўскія Ямы.

У беларускіх паданнях наогул частым персанажам з'яўляецца змяя ці змей. Змей выступае ў якасці ляснога ўладара або сонечнага бажаства, лічыцца захавальнікам скарбаў. Са старажытнейшым культам змяі звязаны назвы гарадзішчаў — Змяіны Бор, Змяінкі, Змееў Лес, Змяіная і інш. Напрыклад, пра гарадзішча Змяёўка, якое было ў Магілёве, паданне гаворыць, што аднойчы людзі вырашылі засыпаць зямлёй забітага маланкай змея–страшыдлу. Але як яны ні стараліся гэта зрабіць, праз ноч зямля аказвалася раскіданай. Тады запраглі ў стары лапаць чорнага пеўня і вазілі на ім зямлю. Зямлю прывезлі тры разы і яе хапіла, каб цалкам засыпаць змея. Насыпаная над змеем гара і стала называцца Змяёўкай.

Падобнае паданне яшчэ і сёння расказваюць старажылы пра адну з курганных груп у Дубровенскім раёне. Згодна паданню, калісьці ў возеры жыў Змей–Волат, які пажыраў людзей і скаціну. Людзі змагаліся з ім, але ніхто не мог яго адолець. Нарэшце знайшоўся асілак, які забіў змея і рассек яго на дарозе на тры часткі — галаву, тулава і хвост і кожную частку закапаў у асобную магілу–курган. Калі насыпалі курганы, зямлю вазілі лапцямі на пеўнях. Акрамя гарадзішчаў і курганоў, вядомы змеевы камяні. Так, каля в. Віркаў Чашніцкага раёна вядомы Змееў Камень або Камень–Кравец. У паданні гаворыцца, што ў камені калісьці жыў змей, які шыў адзенне. Але людзі прагневалі яго і ён перастаў шыць.

Шырока распаўсюджаны таксама паданні пра сустрэчы вяселляў з лютым змеем, які перагарадзіў ім шлях і ператварыў у камяні людзей і коней. Акрамя змеевых камянёў сустракаюцца вужыныя камяні. Вуж таксама часта з'яўляецца персанажам беларускіх паданняў і казак. Лічыцца, што культавае ўшанаванне змей і вужоў характэрна для балцкіх народаў. Са славянскіх народаў у язычніцкай міфалогіі змей сустракаецца толькі ў беларусаў[6].

Старажытнейшы культ жывёл сярод археалагічных помнікаў захаваўся толькі ў назвах сакральных камянёў — Мядзведзь,Кабыла, Быкі, Гусь, Котаў Камень і інш[7]. З месцамі язычніцкіх культаў звязана вялікая колькасць назваў, якія гавораць самі за сябе: Капавішча, Пагулянка, Ігрышча, Гулебшчына, Любашкава, курганы — Гуслішчы, Піўніца, Карагодзіца, Цымбалы, Дудкі, Трэль. У хрысціянскай антытэзе дайшлі да нас назвы Чортава Гара, Чортаў Гарадзец, Бесава Гара, Богава Гара, Чортаў Ступень, Стапа Багамацеры і інш. З язычніцкімі ахвярнікамі магчыма сувязь і такіх камянёў, як Кабыла (Лідскі раён), дзе, па паданнях, адбываліся пакаранні ў часы Дэйнаўскага княства.

На Беларусі даволі шматлікая назва азёр Святое. Хоць такія азёры афіцыйна ў 20–я гады былі перайменаваны, старажылы ўсёроўна называюць іх па–старому — Святое. Як правіла, на берагах такіх азёр знаходзіліся язычніцкія капішчы і розныя паселішчы. Святое возера ёсць пад Мсціславам. Згодна паданню, на гэтым месцы стаяла царква, якая правалілася. Тут утварылася возера, дзе ў ветраны дзень, калі бушуюць хвалі, чуваць, як у прадонні звоняць званы. Курганы на берагах такіх азёр размешчаны ва ўрочышчах з назвамі накшталт Дубок, Дубна і інш. Заслугоўваюць увагі і назвы азёр Багданаўскае (Богданаўскае), Дзеднае, Хоршава (Хорс — бог Сонца) і інш. Несумненна, выяўленне такіх азёр і археалагічныя даследаванні на іх берагах змогуць даць новыя адкрыцці.

## АДЛЮСТРАВАННЕ Ў НАЗВАХ І ПАДАННЯХ БАРАЦЬБЫ БЕЛАРУСАЎ З ЗАХОПНІКАМІ

Барацьба беларускага народа са шматлікімі ворагамі адлюстравана не толькі ў казках і песнях, але і ў паданнях пра археалагічныя помнікі. У іх часцей за ўсё напла-

стоўваюцца адны гістарычныя падзеі на другія. Напрыклад, уяўляе цікавасць паданне пра гарадзішчы ранняга жалезнага веку каля в. Малышкі на Вілейшчыне і пра суседнія курганы. Тут распавядаецца, што даўным-даўно ваяўнічы народ апусташаў нашу зямлю. Мясцовыя жыхары, выратоўваючыся ад ворагаў, збіраліся ў вёску, дзе была капліца з цудадзейным абразам, і тут для абароны пабудавалі насып. На гары разам з маёмасцю знаходзіліся дзеці і старыя, а ўсе, здольныя да бою, выйшлі насустрач ворагу і першая бітва адбылася на месцы курганоў, якія і ёсць магілы воінаў.

Даволі распаўсюджаныя назвы Французская Гара і Французскія Магілы. Такія назвы ў асноўным характэрныя для цэнтральнай і паўночнай Беларусі, што зразумела, паколькі ўзнікненне звязана з гістарычнымі падзеямі 1812 г. Разам з назвамі Французскія Магілы сустракаюцца і такія, як Напалеонаўскія Магілы, Французскі Склад, Напалеонаўскія Валатоўкі, Напалеонаўскія Капцы і інш.

Нягледзячы на шматлікасць назваў, звязаных з французамі, усё больш распаўсюджаны паданні не пра французаў, а менавіта пра шведаў. Такія паданні сустракаюцца нават пра тыя помнікі, назвы якіх не звязаны са шведамі. Хутчэй за ўсё гэта тлумачыцца тым, што паданні ўзніклі яшчэ ў XVII—XVIII стст., у часы шведска-польскай вайны і Паўночнай вайны. Пасля 1812 г. на археалагічныя мікратапонімы напластаваліся назвы Французскія Магілы або Французская Гара, а многія паданні пра шведаў дажылі да нашага часу. Напрыклад, пра адно з гарадзішчаў на Маладзечыншчыне вядома паданне, што нібыта ў час шведскай вайны, калі праходзілі войскі, яно было абрана каралём для адпачынку. Яго салдаты, каб схаваць караля ад вачэй мясцовага насельніцтва, абгарадзілі гэтае месца на час абеду валам, для якога зямлю нанасілі шапкамі. Пра ваўкавыскае гарадзішча Шведская Гара расказваюць, што яно пабудавана шведамі ў час вайны з рускімі. Прычым зямлю насілі шапкамі. Шведы далі клятву, што гарадзішча можна будзе разбурыць толькі тады, калі зямля будзе шапкамі перанесена на былое месца. Па іншаму варыянту падання, пры захопе шведамі Ваўкавыска быў забіты вялікі шведскі военачальнік. Шведы пахавалі яго і магілу насыпалі шапкамі.

У Шклоўскім раёне вядома паданне, згодна якому гарадзішча — гэта шведскія рэдуты, на якіх у час Паўночнай вайны стаялі гарматы. Пра курганы каля Смаргоні расказваецца, што на гэтым месцы адбылася першая сустрэча шведаў з рускімі. Тут шведскі кароль Карл XII меркаваў даць генеральную бітву. Для гэтага шведы пачалі насыпаць бугры, але рускія разладзілі гэтую справу, і Карл XII падаўся на Палтаву. У многіх мясцінах бытуюць паданні, што ў курганах пахаваны рэшткі шведскага войска пасля Палтаўскай бітвы (1709 г.) або што курганы — гэта магілы, якія засталіся пасля бітвы шведаў з саксонцамі. У в. Скварцы на Дзяржыншчыне (Койданаўшчына) расказваюць, што ў кургане пахаваны швед, які выразаў усю вёску, а потым згубіў рукавіцы і так да гэтага часу па начах ходзіць і шукае іх.



Мал. 5. Курганны могільнік І Валатоўкі каля в. Перавоз Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці

На тэрыторыі паўднёвай Беларусі даволі шматлікія мікратапонімы Татарская Гара, Татарскія Магілы, Татарскія Могліцы і інш. Ёсць назвы Турэцкая Гара, Турэцкія Магілы. Адзін з курганных могільнікаў на Сенненшчыне народ звязвае з татарамі (белымі фараонамі), але называе іх Шведскія Магілы. Назвы, звязаныя з татарамі, у асноўным з'явіліся, відаць, не раней XV ст. Наогул, татары на Беларусі вядомы з 1397 г. Яны былі ўзяты ў палон і прывезены Вітаўтам на Беларусь і Літву. Тут атрымалі зямлю і неслі службу ў войску Вялікага князя Літоўскага. Перасяленні татар былі і пазней. Вядома,

што ў перыяд з 1474 па 1569 г. крымскія татары зрабілі 75 паходаў на землі Вялікага княства Літоўскага. Прычым у двух паходах (1532 і 1551 гг.) прымалі ўдзел і туркі[8]. Напрыклад, каля Капыля курганы завуць Татарскія Магілы, але паданне звязвае іх з бойкай Радзівіла з князем Міхаілам Глінскім. У паданні гаворыцца, што ў Слуцку жыў князь Алелька і была ў яго дачка-красуня Анастасія.У яе закахаўся князь Міхаіл Глінскі, а таксама адзін з Радзівілаў. Радзівіл, ведаючы пра каханне Глінскага, паслаў супраць яго войска і разбіў войска Глінскага. Такое паданне магло ўзнікнуць толькі пасля 1507 г. — году паўстання беларускіх і ўкраінскіх феадалаў пад кіраўніцтвам М. Глінскага, які ўцёк у Маскву.

Зафіксаваны таксама такія назвы курганоў, як Саксонскія, Крыжацкія, Сувораўскія, Маскоўскія, Кітайскія, Японскія і Мікалаеўскія Магілы. Мяркуючы па назвах, лёгка вызначыць, калі яны ўзніклі, а часта нават можна звязаць іх з канкрэтнымі падзеямі. Цікавае паданне і сёння бытуе пра гарадзішча з назвай Таўкач (ці Таўкачык) каля в. Гаравыя каля Полацка. Згодна паданню, на гары ў даўнія часы жыло адно племя. На супрацьлеглай гары (Чортавай Гары) жыло другое племя. Гэтыя плямёны пастаянна былі не ў ладах. Назву Чортавай Гары народ тлумачыць тым, што воіны племені, якое жыло там, насілі шлемы з рагамі. У гэтым паданні можна ўгледзець адгалоскі падзей XIVст., калі да Полацка часта даходзілі войскі крыжакоў (1333, 1366, 1374 гг. і інш.)[9].

З адлюстраваннем многіх гістарычных падзей звязаны назвы і паданні пра сакральныя камяні. Так, на Мёршчыне на адным з камянёў абедалі французы. Цікавае паданне бытуе пра камень са знакамі паблізу Асіповіч. Расказваецца, што ў гэтай мясцовасці праходзіў французскі генерал з войскам. Ён заўважыў камень, ударыў яго шабляй і сказаў, што калі камень разаб'ецца,то быць яму ў Маскве. Ад удару камень расшчапіўся на 12 частак, і ў памяць пра гэта генерал загадаў выбіць знакі. Многія камяні, па паданнях, азначаюць шведскую мяжу ці знакі на камянях указваюць, куды накіраваліся шведы. Многія камяні з крыжамі ў народзе лічацца адзнакамі месцаў бітваў рускіх са шведамі. Часта можна пачуць паданні пра каменныя крыжы, нібы яны пастаўлены на месцы магілы шведскага князя або якога-небудзь генерала, забітага падчас шведскай вайны. Напрыклад, каля воз. Сялява (Крупскі раён), па паданнях, пад Мака-

раўскім і Маісесўскім крыжамі пахаваны рускія палкаводцы, пад крыжам Скарпіён — французскі палкаводзец.

## АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ПОМНІКІ І ГІСТАРЫЧНЫЯ АСОБЫ

Назвы многіх археалагічных помнікаў адлюстроўваюць імёны гістарычных асоб. Гістарычныя асобы часта фігуруюць і ў паданнях[10]. Некалькі помнікаў звязана з імем Рагнеды: Магіла Рагнеды ці Замэчак Рагнеды каля Заслаўя, Рагнедзін Курган у Расонскім раёне, Вілейскім раёне і нават каля г. Краславы (усходняя Латвія). У Расонскім раёне Рагнедзін Курган (гарадзішча) яшчэ завуць Гара Рагвалода і Рагнеды. Па паданню, тут пахаваны загінуўшыя ў бітве Рагвалод і Рагнеда. У Заслаўі Замэчак Рагнеды (гарадзішча) таксама лічыцца Магілай Рагнеды, а ў іншых выпадках назвы звязваюцца з замкам Рагнеды.

Многія помнікі даўніны звязаны з імем каралевы Боны, якая праславілася правядзеннем аграрнай рэформы ў канцы 40-х гадоў XVI ст. Бона была жонкай Вялікага князя Літоўскага і караля Польшчы Жыгімонта Старога і маці Жыгімонта II Аўгуста. Бона імкнулася ўзмацніць уладу вялікага князя. Яна выкупляла дзяржаўныя землі, што былі ў заставе, набывала маёнткі прыватных уласнікаў, увяла новыя нормы землекарыстання і павіннасцей, садзейнічала каланізацыі сялянамі неасвоеных зямель. Паданні, звязаныя з Бонай, распаўсюджаны менавіта ў тых месцах, дзе былі яе ўладанні (Клецк, Пінск, Рагачоў і інш.). Напрыклад, у Ваўкавыскім раёне пра гарадзішча, якое знаходзіцца ва ўрочышчы Акопы, расказваюць, што там стаяў палац пані Бэні (Боны). Ен быў разбураны ў час вайны з палякамі. З тых часоў тут нібы кожную ноч можна пачуць плач, часамі ўбачыць агонь, які пры набліжэнні чалавека раптам знікае. З сынам Боны Жыгімонтам II Аўгустам звязана паданне пра каменны крыж каля в. Зачысце Барысаўскага раёна. Згодна паданню, ён у час вайны з Жыгімонтам II Аўгустам нібыта азначаў мяжу.

У паданнях часта фігуруе і польскі кароль Стэфан Баторый. Напрыклад, каменны крыж каля в. Вітунічы Докшыцкага раёна звязваецца з месцам абеду Стэфана Баторыя, а каменны крыж каля в. Даўгінава Вілейскага раёна нібыта быў пастаўлены Баторыем. Акрамя таго, вядомы гарадзішчы Карлаўка ці Лізавеціна Гара, Пят-

роўскі Вал, Кацiна Гара, Акопы Кацярыны, Замак Галіцына, Авідзіева Гара, курганы — Курганы Пятра I, Напалеонаўскія Курганы, Акоп Кацярыны, Кацярынін Курган, Махноўскія Курганы (Махно закапаў золата), камяні — Камень Напалеона, Камень, дзе быў штаб Баграціёна, Камень Іасафата Кунцэвіча, Камень Марыны Мнішак, Камень «Нага Пятра», каменныя крыжы — Кацярынінскі Крыж і інш. Асабліва часта ў назвах і паданнях выступае Кацярына II, якую ў народзе звычайна называюць Кацярынай Вялікай. Напрыклад, у Слонімскім раёне бытуе паданне, што адна з курганных груп насыпана ў час нейкай вайны ў гады праўлення Кацярыны Вялікай. Пра гарадзішчы, назвы якіх звязаны з Кацярынай II, або пра гарадзішчы з назвамі Акоп, Акопы, Акопішча звычайна расказваюць паданні, згодна якім на гэтым месцы абедала Кацярына II з войскам, і калі адыходзіла, то закапала тут грошы і посуд. Кацярына–асілак таксама часта выступае ў паданнях і казках. У в. Бяздзедавічы каля Полацка ў XIX ст. было запісана паданне, дзе персанажамі адначасна выступаюць Стэфан Баторый і Кацярына II. Тут расказваецца, што гэтым краем калісьці валодаў Батура, а як даведалася пра гэта «асілак Кацярына», то сабрала рускае войска і на гэтым месцы сустрэла польскую раць Батуры, разбіла яе рэшткі і пагнала за Дзвіну.

У адрозненне ад іншых раёнаў Усходняй Еўропы на Беларусі мала зафіксавана археалагічных мікратапонімаў, звязаных з Пятром I, нягледзячы на тое што Пётр I бываў у Мінску, Полацку, Копысі і іншых месцах, а каля в. Лясная на Магілёўшчыне адбылася знакамітая бітва падчас Паўночнай вайны (1708 г.). Але ж Пётр I быў гаспадаром суседняй дзяржавы, якая ў час Паўночнай вайны пакінула на Беларусі страшэнныя разбурэнні. Пётр I бываў на Беларусі ў 1701—1704 гг. з вялікім войскам, калі ішоў на дапамогу польскаму каралю Аўгусту II супраць шведаў. У 1705 г. Пётр I разам з царэвічам Аляксеем Пятровічам і войскам прыехаў з Суража па Заходняй Дзвіне ў Віцебск, дзе быў чатыры дні. Затым па Заходняй Дзвіне праз Бешанковічы прыбыў у Полацк. У лагеры пад Полацкам ён выдаў маніфест да Варшаўскага сейму пра ўступленне рускіх войск у Літву. Будучы ў Полацку, войскі Пятра I грабілі Сафійскі сабор, які быў у той час уніяцкім, здзекаваліся з полацкіх манахаў. З Полацка рускія войскі пайшлі праз Глыбокае і Міхалішкі ў Вільню[11].

Разам з вядомымі гістарычнымі асобамі ёсць і назвы помнікаў Князь, часта з дапаўненнямі — Князь-Камень, Князь-Брод або Княгінка, Княжына. Сустракаюцца і простанародныя назвы-імёны, асабліва ў адносінах да адзіночных курганоў (Аленіна Магіла) і камянёў (Дзям'ян і Мар'я, Сцёп-Камень, Адамаў Камень, Цітаў Камень, Федзькін Крыж, Васькаў Камень, Камень Міхалка і інш.).

## 5. ПАВЕР'І ПРА ПОМНІКІ ДАЎНІНЫ

Людзі здаўна не толькі назвамі адзначалі помнікі археалогіі, але складалі розныя паданні пра іх, а таксама ўзнікалі шматлікія павер'і. Як адзначалася, часта гарадзішчы звязваюць з храмам або горадам, якія праваліліся, і таму не выпадкова ўзніклі павер'і, што, калі легчы на зямлю і прыкласці вуха, можна пачуць званы. Пра гарадзішча каля в. Варганы ў Докшыцкім раёне гавораць, што тут нібыта зарыта шмат зброі і нейкі скарб, які з'яўляецца ў розных вобразах. Жыхары в. Сарокі Пастаўскага раёна лічаць, што ў гарадзішчы ёсць патайныя дзверы, якія вядуць у склеп, дзе шмат зброі і залатых манет. З сарокскага склепа вядзе падземны ход у такі ж склеп пад насыпам Гарадок. Наогул паданні пра падземныя хады паміж гарадзішчамі (замкамі) даволі частыя.

Асабліва шмат павер'яў звязана з курганамі і сакральнымі валунамі. Яшчэ ў пачатку XX ст. этнографамі зафіксаваны выпадкі ўпрыгожвання курганоў зелянінай і ваджэння вакол іх карагодаў. Таму не выпадкова, пэўна, і захавалася назва адной з курганных груп на Лепельшчыне — Карагодзіца. У этнаграфічнай літаратуры неаднаразова адзначалася, што на Радаўніцу, перш чым ісці на магілы сваіх блізкіх, калі побач былі курганы, людзі заўжды заходзілі на іх і пакідалі там ежу. Звычайна разбівалі расфарбаванае яйка і закопвалі яго да палавіны ў зямлю[1].

Трэба падкрэсліць, што на Беларусі вядомы выпадкі насыпання курганоў у познім сярэднявеччы. Прычым у некалькіх курганах знойдзены пахаванні з манетамі XVI ст.[2] Акрамя таго, пры раскопках курганоў археолагамі фіксаваліся сляды трызнаў розных стагоддзяў, а таксама пазнейшыя ўпускныя пахаванні ў курганныя насыпы (часам адразу па некалькі пахаванняў). Часта на курганных групах размяшчаюцца сучасныя могілкі. У Сенненскім

раёне нават вядома вёска, якая поўнасцю размешчана на курганніку з вялікіх насыпаў. Курганныя насыпы выкарыстоўваюцца пад скляпы. Гэты выпадак уяўляе сабой выключэнне з правіл ушанавання кurганоў. Другі такі выпадак зафіксаваны Е. Р. Раманавым: у Падняпроўі ў с. Саланом курганы знаходзіліся на агародах і нават на вуліцы. У канцы XIX ст. яны былі разараны[3]. Гэта сведчыць пра тое, што тут хутчэй за ўсё калісьці адначасна змянілася насельніцтва, якое не ведала традыцый былых жыхароў. Добра вядомы падобныя выпадкі, звязаныя з адміраннем назваў і паданняў пра помнікі даўніны ў тых мясцінах, дзе нават пасля Вялікай Айчыннай вайны адбылася змена насельніцтва.

Ужо гаварылася пра паданні, звязаныя з курганамі — часцей за ўсё гэта магілы воінаў на месцы бітвы. Паданні дапаўняюцца яшчэ і павер'ямі. Напрыклад, у Лідскім раёне пад аднымі курганнымі насыпамі нібыта пахаваны воіны, якія загінулі ў час шведскай вайны. Павер'е звязана з тым, што ў поўнач тут пяюць пеўні і з'яўляюцца вартавыя салдаты.

На Гродзеншчыне вядомы курган пад назвай Кудычка, дзе, паводле падання, пахаваны памерлы гвалтоўнай смерцю. Праходзячы каля кургана, людзі звычайна кідалі на яго камяні, палкі, іншыя рэчы. Лічылася, што, калі не зрабіць гэтага, магло здарыцца што-небудзь нядобрае. Аналагічнае павер'е звязана і з курганом Жаніхоўшчына, які знаходзіцца таксама на Гродзеншчыне. Згодна паданню, на месцы кургана сустрэліся два вяселлі і ні адно не захацела ўступіць дарогу другому. Адбылася бойка, падчас якой быў забіты адзін з жаніхоў, і над яго магілай насыпалі курган. Людзі, якія праходзілі каля кургана, кідалі на яго трэскі, салому, траву. Нібыта ўсё накіданае спальвалася выпадковымі прахожымі або самім нябожчыкам, які часам з'яўляецца на кургане.

У Пастаўскім раёне пра адзін з курганных могільнікаў расказваюць, што нібыта там часта бачаць боты або чаравікі, якія пераскокваюць з кургана на курган, калі да іх блізка падысці. У Дзяржынскім раёне бытуе павер'е, згодна якому ноччу на самым высокім кургане з'яўляецца вялізны куфар.

Шматлікія павер'і існуюць і пра старыя могілкі з каменнымі надмагіллямі і каменнымі крыжамі. Напрыклад, у в. Іжа Вілейскага раёна ёсць сляды могілак з каменнямі. Людзі лічаць, што камяні пакладзены на магілы для аба-

роны ад мядзведзяў, якія нібыта прыходзяць сюды разрываць пахаванні. Пра адны з могілак на Міншчыне расказваюць, што там стаяла царква і адзін селянін забраў з разваленай царквы бервяно. Пасля гэтага кожную ноч яго пачалі турбаваць нябожчыкі, і ён быў вымушаны адвезці бервяно назад. Месца гэтых могілак лічылася недатыкальным.



Мал. 6. Святы камень, ці Божы Слядок, каля в. Крамянец Лагойскага раёна Мінскай вобласці

Асабліва часта павер'і звязаны з сакральнымі валунамі. Часткова пра іх ужо ішла размова. У большасці выпадкаў лічыцца, што «святыя» камяні дапамагаюць ад хвароб. Нібыта іншы раз дастаткова дакрануцца да каменя, узяць з яго мох або адбіць кавалачак каменя і змалоць у парашок. Па павер'ях, часцей за ўсё хваробы лечыць дажджавая вада, якая накопліваецца ў выемках. У адных выпадках яна дапамагае ад галаўных боляў, у другіх — лечыць вочы, у трэціх — дзіцячы коклюш, пярэпалахі, ліхаманку і інш. Камяні, якія былі на полі яшчэ ў 30-я гады XX ст. каля в. Пярэжыр Пухавіцкага раёна і называліся Дзям'ян і Мар'я, вылечвалі паралітыкаў, храмых і глухіх. Да іх ішлі людзі з дальніх губерняў і неслі шмат ахвяр — сувоі, воўну, цялят, парасят. Дзяўчаты, просячы ў каменя паслаць ім добрага жаніха, прыносілі пярсцёнкі і пацеркі. У в. Таль Любанскага раёна камень валодае гаючай сілай ад усіх хвароб менавіта ў маладзіковую нядзелю. Ад усіх хвароб абараняюць і каменныя крыжы ў басейне Прыпяці. Гэтыя крыжы, згодна павер'ям, прыплылі з Кіева.

Часта сустракаюцца камяні, якія нібыта вылечваюць жывёл. Напрыклад, каля Мінска (Крыжоўка) камень пад назвай Волас лячыў амаль усіх хатніх жывёл. Адзін са следавікоў на Пружаншчыне «лячыў» барадаўкі як у чалавека, так і ў жывёл. Цікавае павер'е пра камяні Быкі існуе на Чэрвеньшчыне: калі біць па гэтым камені, з яго пойдзе кроў. Пра каменны крыж недалёка ад Палачанаў паблізу Маладзечна расказваюць, што адзін чалавек, праходзячы каля крыжа, не памаліўся і аслеп за гэта. На наступны дзень яго прывялі да крыжа, ён памаліўся і крыж вярнуў яму зрок. У в. Шылавічы на Слонімшчыне камень-следавік дапамагаў ад галаўнога болю, але пасля таго, як адна жанчына памачыла ўзятай са «слядка» вадой вочы сваёй сабачцы, камень згубіў цудадзейную моц. Пра камень каля в. Багданава на Браслаўшчыне бытуе павер'е, што там часта з'яўляецца агонь. У нашы дні можна пачуць, што людзі бачаць часам на камені старэнькую, якая сядзіць там з вялізным мехам.



Мал. 7. Каменны крыж на месцы познесярэднявечных могілак Галодны могільнік каля в. Бабруйшчына Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці

Да многіх камянёў і каменных крыжоў яшчэ да нядаўняга часу па царкоўных святах адбываліся хрэсныя хады. Каля камянёў людзі маліліся, цалавалі камень і складалі ахвяры. Да некаторых камянёў хадзілі на Сёмуху, на Радаўніцу, да іншых — у маладзіковы тыдзень ці на Юр'я. На Яна каля некаторых камянёў збіралася моладзь і наладжвала танцы.

Часта над паклоннымі камянямі ўзводзіліся капліцы і нават храмы і кляштары. Вядома, напрыклад, што ў XVII ст. у Барысаўскім касцёле знаходзіўся камень–следавік, які быў прынесены з лесу разам з іконай Прасвятой Багародзіцы.

Наогул частыя выпадкі пераносу культавых камянёў з аднаго месца на другое. Так, былі перанесены следавікі з балота на могілкі каля в. Сянежычы на Навагрудчыне, в. Пеклічы на Любаншчыне. Прычым у Пеклічах расказваюць, што камень прысніўся адной хворай, якая потым датыкнулася да яго і атрымала выздараўленне. Нібыта пасля гэтага камень і перанеслі на могілкі. Цікавы лёс каменя з малюнкам каля в. Шайбакполе ў Шчучынскім раёне. На гэтым камені былі выбіты схематычная выява каня, рашотка і страла. Мясцовы памешчык загадаў збіць малюнак і устанавіць камень на магіле сваёй жонкі. У в. Ульянавічы на Сенненшчыне ў канцы XIX ст. у лесе знайшлі каменнага ідала і таксама паставілі яго на могілках. Часта бывала, што знойдзеных дзе–небудзь у зямлі старажытных каменных ідалаў уладкоўвалі ў капліцах або пры дарогах замест каталіцкіх ці ўніяцкіх святых. Амаль да нашага часу такія ідалы дастаялі каля вёсак Грабаўцы і Залуззе ў Жабінкаўскім раёне.

У розных месцах Беларусі зафіксаваны выпадкі, калі сакральныя валуны траплялі ў фундаменты хат або гаспадарчых пабудоў. Так, камень з надпісам каля в. Старое Рачына на Падзвінні ў XIX ст. быў выкарыстаны для падмурка хаты. Камень–следавік (са следам зайца) у Мёрскім раёне таксама быў уключаны ў падмурак хаты. Адзін з камянёў (Дзям'ян і Мар'я) каля в. Пярэжыр на тэрыторыі Пухавіцкага раёна яшчэ ў 30–я гады ўмуравалі ў сцяну склепа. Здаралася, што камяні потым вярталі на сваё першапачатковае месца. Так, у адной вёсцы чалавек паклаў камень–следавік у падмурак хаты, а яна згарэла. Пасля гэтага, каб не было больш няшчасцяў, гаспадар вярнуў камень на месца. Расказваюць, што адзін чалавек звёз на продаж каменны крыж і пасля гэтага ў яго пачалі балець ногі. Ён выздаравеў толькі пасля таго, як адвёз крыж на месца.

Пра ўшанаванне народам камянёў сведчаць і такія даныя. У канцы XIX ст. каля п. Рудабелкі (г. п. Акцябрскі) паліцыя разбіла Святы Камень. Людзі пазбіралі яго кавалачкі і зноў склалі камень у першапачатковай форме і туды пачало ісці значна больш паломнікаў. У 20—30–я

гады — часы татальнай барацьбы з рэлігійнымі вераваннямі — камяні, якім пакланяліся, вельмі часта разбівалі, але народ іх зноў складаў і ім надавалася яшчэ большая цудадзейная моц. Вялікай сілай пачыналі валодаць нават маленькія кавалачкі такіх камянёў.

Шмат павер'яў бытуе пра каменныя крыжы. Яны ставіліся ў гонар збаўлення ад розных няшчасцяў, для абароны ад ворагаў і ад эпідэмій. Яшчэ ў часы Вялікай Айчыннай вайны па краях вёсак ставіліся крыжы ад немцаў. Напрыклад, вядома, што каменны крыж, які яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. стаяў на Аляксандраўскай плошчы ў Мінску, нібыта аберагаў жыхароў бліжэйшых дамоў ад эпідэмій, пажараў і іншых няшчасцяў. Часта ў народзе лічаць, што пад крыжамі закапаны скарбы, якія былі вывезены французамі ў 1812 г. з Масквы.

Даўжэй за іншыя захаваўся звычай ахвярапрынашэнняў культавым валунам. Яшчэ нядаўна многім следавікам насілі лён, шэрсць, сувоі, ежу, ставілі свечкі. Напрыклад, калісьці да каменю каля п. Рудабелкі неслі масла, каменю на мінскім капішчы (на беразе р. Свіслач) — мёд, малако, віно, каменнаму крыжу ў Палачанах — мёд і яйкі. Крыжам часта ахвяравалі рушнікі, хусткі, стужкі і лампадкі, спецыяльна зробленыя фартушкі з вышыванымі або выразанымі крыжыкамі. У наш час захаваўся звычай насіць каменным крыжам і камяням манеты, кветкі і зеляніну. Каля культавых камянёў можна і зараз убачыць побач драўляныя крыжы. Часам на камянях ставіліся іконы.

Неаднаразова ў краязнаўчай літаратуры згадваецца прынашэнне хлеба-солі каменю пад назвай Прывітальня, што ў рэчышчы Віліі. Гэты камень калісьці замінаў суднаходству, і тыя, хто плылі міма яго, кідалі хлеб-соль і пры гэтым казалі: «Вітаю цябе хлебам-соллю! Хлеб-соль прымі, а мяне прапусці!»

## 6. ЗМЕНЫ НАЗВАЎ І ПАДАННЯЎ

Як ужо адзначалася, многія археалагічныя помнікі захавалі па некалькі назваў, па якіх можна высветліць народныя ўяўленні пра розныя гістарычныя эпохі. Традыцыі — адны з важнейшых элементаў культуры. Яны функцыяніруюць на працягу вялікіх адрэзкаў часу і іх сэнс можа быць зразумелы толькі пры гістарычным падыходзе. Пэўна, да самых старажытных назваў трэба ад-

несці назвы, у якіх бачыцца сувязь з культам сонца (Дзявіч–Гара, Дзева–Блюдас, Дзявочы След), тура (Тураны Горы, Тур'я, Турска), змяі (Змяёўка, Змееў Курган). Са старажытнымі язычніцкімі культамі, звязанымі з ахвярапрынашэннямі, увязваюцца Змееў Камснь каля в. Віркаў Чашніцкага раёна. Доказам гэтага з'яўлясцца паданне, згодна якому тут жыў Змей–Кравец. За працу яму прыносілі ссці і ніць.

Сляды ахвярапрынашэнняў захаваліся і ў фактах адорвання камянёў, асабліва камянёў–следавікоў, якія ў большасці выпадкаў звязаны з культам жаночага сонечнага боства, культам урадлівасці. У католікаў такія камяні маюць назвы След Святой Панны, След Святой Марыі, у праваслаўных — След Багамацеры або Слсд Божай Маці. У абодвух выпадках гэта хрысціянскае напластаванне ў назвах паказвае менавіта сувязь з жаночым боствам. Таму не выпадкова следавікі маюць назвы Дзявочы След і След Багамацсры. Гэта два мікратапанімічныя пласты — язычніцкі і хрысціянскі. Два пласты назваў захаваў і камень Дзева–Блюдас, ён жа Бога–Блюдас.

Да язычніцкіх мікратапонімаў трэба аднесці назвы Бесава Гара, Чортава Гара, Паненская Гара, Гара Злачыніца. Захаваліся і чыста балцкія археалагічныя мікратапонімы — Пілікаця, Піля, Пакальніца.

Хутчэй за ўсё, у жалезным веку ўзніклі і назвы, якія адлюстроўваюць агульны выгляд паселішчаў — Гарадок, Гарадзішча, Груда, Гара і інш. Потым на працягу стагоддзяў на гэтыя назвы часта наслойваліся дапаўненні: Ваенны Гарадок, Ніжні Гарадзец, Малы Гарадзец, Папоў Гарадзец і інш. У часы сярэднявечча многія з месцаў старых паселішчаў, каля якіх адбываліся бітвы, замацавалі за сабой назвы накшталт Татарская Гара, Шведская Гара, Французская Гара і інш. Нават пра шырокавядомыя помнікі эпіграфікі XII ст. — Барысавы Камяні можна пачуць, што на гэтых камянях нібыта калісьці абедалі французы. У позняе сярэднявечча на многіх гарадзішчах, паданні і павер'і пра якія былі ўжо забыты ў выніку змены насельніцтва, робяцца могілкі. Яны функцыяніравалі некаторы час, а потым былі закінутыя. У народзе такія месцы пачынаюць тады называцца ўжо не Гарадзец, а Магілкі (Мсгілкі), Могліцы, Галодныя Магілы, Братнія Магілы і інш.

Апошнім часам даволі рэдка на Беларусі ўжываюцца назвы курганоў Сопкі, Сопіцы і да таго падобныя. У той

жа час у дакументах XVI—XVII стст. такія назвы сустракаюцца часта, асабліва на поўначы рэспублікі. Сопкі згадваюцца як арыенціры пры апісанні межаў прыватнаўласніцкіх зямель, напрыклад «...граница через поле на край, на сопки, до дороги...»[1].

Усходнеславянскім пластом у археалагічнай тапаніміцы трэба лічыць назвы гарадзішчаў тыпу Пагулянка, Ігрышча, Гулебшчына, курганоў — Піўніца, Гуслішчы, Балваны, Карагодзіца, Валатоўкі, Дубішча, камянёў — Капавішча, Даждзьбог, Пярун, Волас, Дуброва, каменных ідалаў — Стод, Трыглаў. Усе гэтыя назвы звязаны з пэўнымі культамі, што ўжо адзначалася.

Даволі выразна адлюстроўваецца на назвах археалагічных помнікаў перыяд хрысціянізацыі і барацьба з язычніцтвам. Адсюль не выпадковы і пласт мікратапонімаў: курганных могільнікаў — Крыжы, Перакрэсце, Паганскія Магілы, гарадзішчаў — Царкавішча, Касцялок, Званіца, Манастыр, культавых камянёў — Божы Камень, Божы Слядок, Званец, След Анёлка і інш.



Мал. 8. Барысаў камень каля былой вёскі Накоўнікі Мёрскага раёна Віцебскай вобласці

Толькі ў пачатку 2-га тысячагоддзя н. э. маглі ўзнікнуць такія назвы, як Гара Рагнеды, Князь-Камень, Князь-Брод, Магіла Міндоўга (ці Войшалка). Не раней эпохі сярэднявечча з'явіліся назвы Курган[2], Замак, Талерка (Тарэлка), Двярэц, а крыху пазней — Батарэя, Акоп[3], а таксама неаднаразова згаданыя Французская Гара, Шведская Гара. Лёгка датуюцца назвы, звязаныя з гістарычнымі асобамі: Батураўшчына, Вітаўт, Нага Пят-

ра, Камень Напалеона, Камень Баграціёна, Камень, дзе абедала Кацярына, і інш., або з гістарычнымі падзеямі — Маскоўкіны Горы, Саксонскія Магілы, Японскія Магілы, Мікалаеўскія Магілы.

Пры супастаўленні літаратурных даных XIX ст. і сучасных выданняў ("Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі") выразна прасочваецца тэндэнцыя знікнення адных мікратапонімаў і прыход ім на змену другіх. Ужо ў нашы дні расказваюць нават паданні пра курганы, у якіх нібыта Махно закапаў грошы. Цікавасць уяўляюць і назвы Мікалаеўскія Магілы, якія ўзніклі ў XX ст. Ва ўсходняй Беларусі зафіксаваны паданні, згодна якім курганы — гэта пахаванні партызан часоў Вялікай Айчыннай вайны.

Вялікую цікавасць уяўляюць археалагічныя помнікі, якія вядомы пад некалькімі назвамі, як, напрыклад, Дзядаўскія Ямы і Шведскія Магілы, Балваны — Французскія Магілы — Камуна. Змена ўяўленняў народа пра помнікі даўніны бачна і ў паданнях. Часта бывае, што ў адной і той жа вёсцы можна пачуць нават некалькі паданняў пра адзін і той жа помнік або ў адным і тым жа паданні суіснуюць падзеі розных гістарычных часоў. Напрыклад, курганы каля в. Домжарыцы Лепельскага раёна называюць Шведскія Магілы і адначасна звязваюць іх з лагерам рускіх войск часоў Івана Грознага. Прыкладам можа служыць і камень у в. Камень Валожынскага раёна. Па этнаграфічных запісах 1929 г., камень азначаў месца, дзе стаяла хата шаўца, які быў пракляты за працу на Вялікдзень. Зараз у вёсцы расказваюць наступнае паданне: «Гэты камень нёс д'ябал і хацеў заваліць дзверы святыні, але прапеў певень і д'ябал выпусціў камень». Першае паданне больш ранняе, а другое адносіцца да часоў супрацьстаяння язычніцтва і хрысціянства.

Ёсць гарадзішча з назвай Пагулянка і камень з назвай Кадрыль. У абодвух выпадках гэтыя помнікі народ звязвае з месцам гулянняў памешчыкаў. Да аднаго з чортавых камянёў (Валожынскі раён) таксама нібыта прыязджаюць гуляць менавіта памешчыкі. Такія паданні хутчэй за ўсё адлюстроўваюць той факт, што гэтыя помнікі былі месцамі язычніцкіх капішчаў, куды збіраліся нашы продкі адзначаць святы.

Доказам стадыяльнай зменлівасці ва ўяўленні народа аб помніках даўніны з'яўляюцца два асноўныя моманты: па-першае, сугучнасць назваў для ўсіх відаў помнікаў, у

тым ліку і культавых валуноў, па-другое, аднатыпнасць сюжэтаў паданняў для ўсіх відаў помнікаў з невялікімі варыянтамі ў адносінах да віду помніка. У якасці прыкладу аднатыпнасці назваў могуць служыць даволі распаўсюджаныя мікратапонімы — гарадзішча Татарская Гара, курганы Татарскія Магілы, каменныя магілы Татарскія Могліцы або гарадзішча Тур'ева Гара, курганы Турава Балота, адзінкавы курган Турскі Курган, бескурганны могільнік Турска або гарадзішча Чортава Гара і культавы Чортаў Камень.

З аналізу матываў паданняў вынікае восем асноўных сюжэтаў:

— паданні пра гарадзішчы як пра Дзявочую Гару, насыпаную дзяўчатамі; паданні пра камяні-следавікі як пра след дзяўчыны-волата, а таксама пра камяні як пра акамянелых дзяўчат ці жанчын;

— сустрэча двух вяселляў, ніводнае з якіх не саступіла дарогі і ў выніку бойкі абедзве пары маладых забіты, на месцы бойкі насыпаны курганы над магіламі забітых або ўсё вяселле ператварылася ў камяні, па некаторых варыянтах вяселле сустрэлася з лютым змеем і было ім ператворана ў камень;

— скарбы закапаны ў гарадзішчах, курганах, пад камянямі або пад каменнымі крыжамі;

— у курганах пахаваны волаты-асілкі, а вялізныя камяні — гэта акамянелыя волаты ці сляды волатаў на камянях-следавіках;

— на гарадзішчах або на вялізных валунах абедалі французы, шведы, Стэфан Баторый, царыца Кацярына, Напалеон і інш.;

— каля гарадзішчаў, курганоў, камянёў адбываліся бітвы з ворагамі або гарадзішчы нанасілі шапкамі ці ботамі ворагі (французы, шведы, татары) ці проста салдаты;

— на гарадзішчах, курганах, камянях з'яўляецца агонь;

— чорт хацеў перагарадзіць раку або заваліць дзверы святыні (храма), але, калі нёс камень, прапеў певень і чорт выпусціў камень, так з'явіліся курганы ці каменныя магілы або сакральныя валуны.

Трэба адзначыць, што сходныя назвы археалагічных помнікаў і паданні пра іх вядомыя і на суседніх тэрыторыях. Напрыклад, на Смаленшчыне гарадзішчы таксама называюць Гарадок, Курган, а курганы — Валатоўкі,

Французскія Магілы, Турок і інш. На тэрыторыі ўсходняй Латвіі фіксуюцца назвы гарадзішчаў Гарадок, Замкавая Гара, Рудавас, Касцельная Гара, Стары Замак, Напалеона Рэдутс, Батарэяс Калнс, Дзіева Калнс, курганоў — Сопкі і інш. На тэрыторыі Эстоніі, дарэчы, як і на тэрыторыі поўначы Усходняй Еўропы, паходжанне многіх курганоў звязваецца з часамі Паўночнай вайны. Народ мяркуе, што ў круглых па форме курганах пахаваны шведы, а ў доўгіх — рускія салдаты або наадварот. Тут таксама расказваюць, што некаторыя курганныя могільнікі — гэта ўзвышэнні для ўстаноўкі гармат[4].

Такім чынам, аднатыпнасць назваў і паданняў, іх стадыяльная зменлівасць — вельмі шырокараспаўсюджаная з'ява, якая адлюстроўвае гісторыю народа.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Багатая наша гісторыя. Яе падзеі знайшлі адлюстраванне не толькі на старонках летапісаў, але і ў народнай памяці. Летапісы часта пісаліся тэндэнцыйна, і паказ падзей у іх звычайна быў поглядам афіцыйных уладаў. Народнае ўспрыманне тых ці іншых падзей дайшло да нас у форме паданняў, прыказак, павер'яў. Значную каштоўнасць уяўляюць таксама сведкі аб помніках даўніны ў розныя гістарычныя эпохі. Амаль ні адзін [illegible] археалагічных помнікаў (гарадзішчы, курганы, каменныя магілы, селішчы, сакральныя валуны) людзі не абышлі ўвагай і перадавалі з пакалення ў пакаленне расказы пра іх. У некаторых мясцінах дайшлі да нашага часу вельмі старажытныя назвы і паданні, у іншых — на адны паданні наслойваліся другія і таму часта ў адной і той жа вёсцы можна пачуць некалькі варыянтаў паданняў пра адзін і той жа помнік даўніны. Бывае, у паданні сплятаюцца падзеі розных гістарычных часоў. Але ж увогуле пры аналізе археалагічных мікратапонімаў яскрава вылучаюцца язычніцкі пласт (Даждзьбог, Валатоўкі, Пярун, Дзявочая Гара, Змееў Камень, Казлова Курганне, Дубішча, Ігрышча, Пагулянка, Турава Гара, Магілы жрацоў–крывейтаў, Дымакуры, Капішча і інш.), пласт часоў хрысціянізацыі (Крыжы, Перахрэсце, Царкавішча, Божая Хвала, Манастыр, След Багародзіцы, След Маткі Боскай з Прадвечным немаўляткам, След святога Мікалая), часы татарскіх нападаў (Татарская Гара, Татарскія Магілы), шведскіх войнаў (Шведская Гара, Шведскі Курган), вайны 1812 года (Французскія Капцы, Напалеонаўскія Магілы, Французская Гара) і інш. Археалагічныя мікратапонімы з'яўляюцца каштоўнейшай крыніцай,

якая ў храналагічнай паслядоўнасці адлюстроўвае народнае ўяўленне гісторыі. Калі ў памяці народа сціраюцца назвы, губляецца найцікавейшы пласт нашай мінуўшчыны, які немагчыма выявіць ні ў архівах, ні падчас археалагічных раскопак. Таму так важна збіраць гэты каштоўнейшы скарб менавіта сёння, калі яшчэ можна пачуць адгалоскі сівой даўніны.

# СПІС НАРОДНЫХ НАЗВАЎ АРХЕАЛАГІЧНЫХ ПОМНІКАЎ

## НАЙБОЛЬШ РАСПАЎСЮДЖАНЫЯ НАЗВЫ ГАРАДЗІШЧАЎ

Акоп, Акопы, Акопы Кацярыны, Батарэя, Верхні Замак, Вышні горад, Гарадзец, Гарадзішча, Гарадок, Груд. Груда, Грудка, Грудок, Дварэц, Дзявочая Гара, Замэчак, Замкавая Гара, Замкавішча, Замчыска, Замчышча, Замак, Замак каралевы Боны, Змееў Курган, Касцёл, Курган, Лысая Гара, Магіліцы, Магілы, Малы Гарадзец, Ніжні Гарадзец, Ніжні Замак, Папоў Гарадзец, Папова Гара, Прыстань, Рудавец, Селішча, Талерка (Тарэлка), Татарская Гара, Турэцкая Гара, Французская Гара, Царкавішча, Чорная Гара, Чортаў Гарадзец, Чортава Гара, Шведская Гара.

## АДЗІНКАВЫЯ НАЗВЫ ГАРАДЗІШЧАЎ

Авідзіева Гара, Акопішча, Альтанская Гара, Асеча, Асінгарадок, Астравок, Барок, Барыслаўль–Гарадок, Баярскі Бугор, Баяршчына, Белая Гара, Бесава Гара, Благадаць, Божы Бор, Божая Хвала, Брацкія Магілы, Буслава Гара, Ваенны Гарадок, Вал Скрыгалоўскі, Варганская Гара, Віршупка, Вокунь–Гара, Востраў, Востраў–Гарадок, Выспянская Гара, Выспа, Гара, Гара Высокая, Гара–Прэступніца, Гарбоўшчына, Галодныя Магілкі, Гараватка, Гарадзінка, Гарадзішча князя Корсака, Гарадкі, Гарадніца, Гародна, Гарадцы, Гаршок, Гаштольдава Гара (Кальвіншчына), Германы, Горбуч, Горкі, Горад, Гулебшчына, Гуркі, Гуслішча, Дварышча, Дубовае, Дымакуры, Елізавеціна Гара (Карлаўка), Жаўнерава, Жыжнянь, Загорна, Залатая Гара, Замкоўка, Замкаўшчызна, Замчыска, Замак Галіцына, Званіца, Змеева Гара, Змяёўка, Ігрышча, Каза, Казацкі Стан, Каменная гара, Капавішча, Кап'ё, Касцялок, Касцяная Гара, Каціна Гара, Кіян–Горад, Княгінкі, Княжая Гара, Княжаскае, Копішча, Кравянец, Красік, Круглая Гара, Крутагор'е, Крэм–Горад, Кураўская Гара, Лісіная Гара, Літоўская Гара, Любашкава, Манастыр, Марыліна Гара, Маскоўкіны Горы, Мсцібаў Гарадок, Муравельнік, Нікольская Гара, Пагулянка, Падгор'е, Падкапцоўе, Падкопцы, Пакальніс, Пансиская Гара, Пілікала, Пілікальніс, Піля, Пінікала, Польская Гара, Пятроўскі Вал, Сароцкая Гара, Сакольля Гара, Саламярэчскі Гарадок, Салдатава Гара, Салдацкая Слабада, Сіняя Гара, Скабеева Гара, Спаская Гара, Старына, Сыпаная Гара, Тарылава, Таўкач, Турава Гара, Турынскі Гарадок, Тур'ева Гара, Узгорскі Замак (або Вастрог), Царскія Вароты, Шведскі Вал, Янава Гара.

## НАЙБОЛЬШ РАСПАЎСЮДЖАНЫЯ НАЗВЫ КУРГАНОЎ

Барок, Бор, Бугаркі, Бугры, Валатоўкі, Горкі, Гурбаны, Даўнія Магілы, Дзеднае, Дзедаўка, Дзедаўскія Магілы, Дзявіц–Магілы, Дзявочыя Магілы, Дубкі, Змяінкі, Капцы, Княжая Гара, Княжае Кладбішча, Крыжацкія Магілы, Курганы, Курганне, Магілкі, Напалеонаўскія Валатоўкі, Напалеонаўскія Капцы, Напалеонаўскія Магілы, Панскія Магілы, Сопкі, Старыя Кладкі, Татарскія Магілы, Татарскае Кладбішча, Турэцкія Магілы (Турэцкі Могільнік), Французскія Магілы, Чумнае Кладбішча, Шведскія Капцы, Шведскія Магілы.

## АДЗІНКАВЫЯ НАЗВЫ КУРГАНОЎ

Акоп, Акоп Кацярыны, Астоў, Атокі, Аўстрыйскія Магілы, Балваны, Баравая, Баравінка, Баравое Балота, Батураўшчына, Бежанскія Магілы, Богава Гара, Божая Хвала, Бярозавік, Вілаватка, Вілатоўкі, Вітаў Лог, Востраў, Высокія Магілы, Гай, Гарадзінка, Гарадзішча, Гарадок, Гуслішча, Дворнае, Дубавіна, Дубішча, Дубняк, Дубовіцы, Дубок, Дудкі, Дуплішча, Задубеннае, Змееў Бор, Змяінец, Змяіны Бор, Зязюлька, Кабыліны Горы, Казлоўка, Казлова Курганне, Калатоўкі, Калечыя Магілы, Камяное, Капавішча, Капаная Ель, Капліцы, Карагодзіца, Катуха, Кахоўка, Кітайскія Магілы, Красніца, Крэст, Кроў, Курганнік, Курганы Пятра I, Лагер (Лагеры), Латоўкі, Латышы, Ляхаўка, Магілы Веліканаў, Магілы жрацоў–крывейтаў, Магільніца, Малатоўкі, Масіна Магіла, Маскоўскія Магілы, Масцішча, Мікалаеўскія Магілы, Мошчанскае, Пагоня, Паграбішча, Падзамча, Падкопцы, Перахрэсце, Піўніца, Праклятае Поле, Рвы, Саксонскія Магілы, Сапцы, Селішча, Сечышча, Сліва–Магіла, Слупка, Сопіцы, Старажэнная, Старына, Сувораўскія Магілы, Сутокі, Табары, Талатоўкі, Талкачоўка, Татарына Балота, Трэль, Турава Балота, Туравы Горы, Турэцкі Хвойнік, Турэцкі Магільнік, Тур'я, Французскі Склад, Хвойнікі, Хоршава, Царкавішча, Цымбалы, Чорная Атока, Чортава Гара, Ямішча, Японскія Магілы, Яўрэйскія Магілы (Могілкі).

## НАЙБОЛЬШ РАСПАЎСЮДЖАНЫЯ НАЗВЫ КУЛЬТАВЫХ КАМЯНЁЎ

Божая Ножка, Божая Стопка, Божы Слядок, Божы Камень, Бықі, Волас, Волат (Волаты), Вужыны Камень, Вялікі Камень, Дзявочы Камень, Дзявочы След, Змееў Камень, Камень Напалеона, Капавішча, Князь-Камень, Кравец, Пярун, Святы Камень, След Анёлка, След Багародзіцы, След Багародзіцы з немаўляткам, След Божы, След Валатоўны, След Д'ябла, След Маткі Боскай з Прадвечным немаўляткам, След Святога Мікалая, След Святой Панны, След Хрыста, След Чорта, Стапа Багамацсры, Чортаў Камень, Чортаў Ступень.

## АДЗІНКАВЫЯ НАЗВЫ КАМЯНЁЎ

Адамаў Камень, Апякун, Валіла, Васькаў Камень, Вол, Воласень, Волат, Вор, Гомсін Камень, Гусак, Гусь, Даждзьбог, Дайніца, Дзева–Блюдас, Дзед, Дзедаў Камень, Дзям'ян і Мар'я, Дубрава, Залатыр, Захараў Камень, Званец, Кабыла, Кадрыль, Каменныя Вароты, Камень Багушэвіча, Камень Баграціёна, Камень Кунцэвіча (Іасафатаў Камень), Камень Кахання, Камень Марыны Мнішак, Камень Міцкевіча (Камень Філарэтаў), Каменны Масток, Каменныя Валы, Каменнае Ярмо, Каменны Масток, Князь–Брод, Касцелішча, Котаў Камень, Красны Камень, Лешы Камень, Марцін Камень, Мар'я, Міхалка, Мядзведзь, Мядзвежая Галава, Нага Пятра, Нявесцін Камень, Пісаны Камень, Проліца, Пястун, Радушына, Сіні Камень, Скаварада, Стук-Баба, След Святога Антонія, След Бычка, След Д'ябла-абжоры, Стары, Ступня Магдаленкі, Сцёп–Камень, Тур'і Горы, Уладыка, Царкавішча, Цітаў Камень, Цудадзейны Камень, Чаечнік, Чартолле, Чортава Грэбля, Чортава Дарожка, Чортава Печ, Чортавы Дучкі.

## ДВА КУРГАНЫ

Княгінкі, Князевы Горы, Пабядзінец.

## АДЗІН КУРГАН

Аленіна Магіла, Асілкава Магіла, Бабруйкава Гара, Баторыева Гара, Валатоўка Барысаўская, Віскаўшчына, Волатава Магіла, Волатава Поле, Дзявочая Гара, Доўбішча, Змеева Магіла, Змееў Лес, Ігнатава Магіла, Капітанка, Кацярынін Курган, Кудычка, Княжая Гара, Княжая Магіла, Магіла Міндоўга (ці Войшалка), Магіла Рагнеды, Патаўсты Востраў, Прусава Гара, Прыдаткі, Саксонскі Курган, Сечышча, Татарская Магіла, Турскі Курган, Турэцкі Курган, Янава Гара.

## БЕСКУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ РОЗНЫХ ЧАСОЎ

Аўстрыйскія Магілы, Баб'я Горка, Баранішкі, Барок, Баярскія Магілы, Брускавішча, Ганчарыха, Дзявіц-Магілы, Дуніч-Магіліцы, Жыдоўскія Магіліцы, Залатая Горка, Капцы, Кладавішча, Копішча, Крыжовая Гара, Леваноўшчына, Ляшча, Магільнік, Магіліцы, Магілкі Скамарошыя, Мёртвае Поле, Паганскія Магілы, Паганскія Цвінтары, Памецішча, Плітніца, Прыстань, Старасвецкія Магілы, Старыя Клады, Стрэліца, Татарскія Могліцы, Турска, Хаткі, Халернік, Царава Гара, Царкавішча, Цыклідзін Курган, Цыганка, Чэрнішкі, Чумнае Кладбішча.

## КАМЕННЫЯ МОГІЛЬНІКІ

Баярскае Кладбішча, Баярскія Магілы, Галоднікі, Галодныя Магілы, Дзявіц-Магілы, Іванава Гара, Камяніца, Капцы, Карначыха, Крастовая Гара, Крыжовая Гара (Штугер), Лейцекапініс, Магілы Веліканаў, Мангольскія Магілы, Мельжыну Капей[1], Паганскія Магілы, Татарскія Магілы, Татарскія Магільніцы, Турэцкія Магілы, Царкавішча, Шведскія Магілы, Ятвяжскія Магілы .

## ЖАЛЬНІКІ

Галоднік, Галодны Магільнік, Хрысцініны Лядцы, Халернік, Аўстрыйскія Магілы.

## СЕЛІШЧЫ РОЗНЫХ ЭПОХ

Аржышча, Балонне, Барочак, Баркі, Барок, Вераб'ёва Горка, Востраў, Вострая Гара, Вусце, Вялікая Ляхавіца, Гай, Гарадзішча, Гарадок, Голіцкае Поле, Гарадзішча, Горка, Горліца, Грабелька, Градка, Груд, Грэбелька, Дварэц, Завалы, Залатая Горка, Замак, Замікальшчына, Замэчак, Ігрышча, Камень, Капылец, Муравін, Ніва, Пасадскае, Печышча, Рыбуня, Селішча, Стараселле, Старое Сяло, Старыя Клады, Стонча, Сялецкі Роў, Царкавішча, Целешавае Поле, Цэсь, Шчыткавіца.

---

[1] Лэйцэкапініс і Мельжыніс Капей — так называліся каменныя могільнікі каля в. Нача Воранаўскага раёна (Ш у к е в и ч В. А. Об археологических местностях в Лидском и Трокском уездах // Отчет Императорской археологической комиссии за 1905 год. Спб., 1908. С. 96—100).

## СТАЯНКІ КАМЕННАГА І БРОНЗАВАГА ВЯКОЎ

Аксінаў Груд, Асавец, Аўрамаў Бугор, Бабулін Бугор, Баравіца, Барок, Барысава Гара, Бацяніха, Боркава Гара, Бочачкі, Бугры, Бярозавая Града, Бярозаўскі Поплаў, Вітаўт, Востраў, Выдзьма, Высокая Грыва, Ганчароўка, Гарадзішча, Гарадок, Гарадшчызна, Гарынец, Горка, Града, Грудзіца, Груды, Дварэц, Дварышча, Дзёмкіна Грыва, Дзівінскія Горы, Дзівінскія Пяскі, Дубраўка, Завалле, Завальна, Загумснька, Замчышча, Збішча, Казялец, Калодзенскі, Каралёў Востраў, Кашаланы, Кашчэева, Ключыха, Красная Горка, Кругліца, Крыжы, Курган, Курганне, Ліпавы Бугор, Літоўскі Бераг,Ляды, Магіліца, Мельнікава Грыва, Негацень, Падлужжа, Падселіца, Палон, Папова Грыва, Печышча, Плітніца, Плошча, Прыстань, Рубанаў Курган, Селішча, Старое Аднаполле, Старое Сяло, Стрэчава, Сяльцо, Тураўшчына, Узлужжа, Фядоткіна Гара, Хвойнік, Царкавішча, Цыганскі Бугор, Шведскія Акопы.

### НАЗВЫ КАМЕННЫХ КРЫЖОЎ

Кацярынін Крыж, Макараўскі Крыж, Маісееўскі Крыж, Скарпіён, Стан–Круль.

### НАЗВЫ КАМЕННЫХ ІДАЛАЎ

Ёлуп, Праўрыма, Стод, Трыглаў, Цар Давід.

### НАЗВЫ АЗЁР, НА БЕРАГАХ ЯКІХ ЁСЦЬ ПОМНІКІ АРХЕАЛОГІІ

Дзеднас, Святос, Чорнас.

### НАЗВЫ КУЛЬТАВЫХ ГОРАК

Лысая Гара, Мар'іна Горка, Капавішча, Святая Горка.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## УСТУП


1 Каханоўскі Г. А. Археалагічнае і гістарычнае краязнаўства XVI — першай паловы XIX ст. Мн., 1984. С. 58.
2 Сведения 1873 года о городищах и курганах // Известия Археологической комиссии. Вып. V. Спб., 1903.
3 Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Вильно, 1893; Ён жа. Археологическая карта Гродненской губернии // Труды IX Археологического съезда в Вильне. М., 1895. Т. 1.
4 Каханоўскі Г. Львоўскае рэха // Полымя. 1971. № 9. С. 214—225; Рассадин С. Е. Неизданная книга (Евдоким Романович Романов). Археологическая карта Могилевской губернии // История книги, книжного дела и библиографии в Белоруссии. Мн., 1986. С. 98—107.
5 Мялеш[illegible]а М. Апытальны ліст да збірання народных вераванняў і прадстаўленняў, звязаных з каменем, і вестак аб каменных помніках гісторыка-археалагічнай значнасці // Наш край. 1926. № 1(4). С. 43—46.


## 1.


1 [illegible]урзае[illegible] Э. М. Словарь народных географических терминов. М., 1984. С. 156.
2 Ткачев М. А. Замки Белоруссии. Мн., 1987. С. 103.
3 Историко-юридические материалы. Вып. 22. 1891. С. 465; Историко-юридические материалы. Вып. 25. С. 431; і інш.
4 Словарь церковно-славянского и русского языка. Спб., 1876. Ч. 2. С. 271.
5 Археология СССР. Древняя Русь. Город, замок, село. М., 1985. С. 94.
6 [illegible]рэжга Б. Замкі Віцебшчыны. Вільня, 1933. С. 3—5.

7 Покровский Ф. В. Археологическая карта Гродненской губернии. С. 103.
8 Рыбако■ Б. А. Языческое мировоззрение русского средневековья // Вопросы истории. 1974. № 4. С. 20.
9 Тарасенко В. Р. К истории позднеродового общества на территории Белоруссии // Известия АН БССР. 1948. № 2. С. 129.

2.

1 Квятковска■ А. В. Каменные могилы Белорусского Понеманья // КСИА. Вып. 183. М., 1986. С. 32—41.
2 Дучыц Л. У. Да пытання аб познесярэдневяковых курганах Паўночнай Беларусі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. № 4. С. 77—83.
3 Слова капец (копец) азначае межавы знак, земляны насып (Насо■іч І. І. Слоўнік беларускай мовы. Мн., 1983).
4 Слова волат азначае велікан (Словарь древнерусского языка IX—XIV вв. М., 1988. С. 470).
5 «Сасамі» ў народзе называлі саксонцаў у арміі Напалеона.
6 Касьпяровіч М. І. Валатоўкі і звязаныя з імі перажыткі (першапачатковыя вынікі дасследавання) // Наш край. 1929. № 6—7. С. 84—89; Ясі■скі А. Два словы аб волатах (да праблемы першапачатковага насельніцтва Беларусі) // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Працы класа гісторыі. Мн., 1929. Т. 3. Кн. 8. С. 201—216.
7 Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва. Мн., 1985. Т. 1. С. 562.
8 Сергеева З. М. Народные названия курганов на северо-востоке Белоруссии // Древности славян ■ Руси. М., 1988. С. 67—72.
9 Плужникова С. Н. Образ осилков в белорусских преданиях и сказках // Советская этнография. 1960. № 4. С. 80—89; Мурзае■ Э. М. Словарь народных географических терминов. М., 1984. С. 128.
10 Бараг Л. Да пытання аб волатах-асілках старажытных беларускіх паданняў // Полымя. 1945. № 10. С. 103—122; Ё н ж а. «Асілкі» белорусских сказок ■ преданий (к вопросу о формировании восточнославянского эпоса) // Русский фольклор. Вып. 8. М.; Л., 1963. С. 29—40; Плужникова С. Н. Образ осилков ■ белорусских преданиях и сказках // Советская этнография. 1960. № 4. С. 80—89.
11 Писаренко Ю. Г. О значении местного названия кургана Волотовка // Актуальные проблемы историко-архе-

ологических исследований. Тезисы докладов. Киев, 1987. С. 129.
[12] Микротопонимия. М., 1967. С. 50.
[13] Повесть о Волоте // Известия Отделения русского языка и словесности Императорской Академии наук. Спб., 1913. Т. 18. Кн. 1. С. 49—86.
[14] Историко-юридические материалы. 1891. Вып. 22. С. 453, 467, 496; Историко-юридические материалы. 1892. Вып. 23. С. 469, 491; Историко-юридические материалы. Вып. 28. С. 260.
[15] Даль В. И. Толковый словарь. М., 1955. Т. 1. С. 235—236.
[16] Покровский Ф. В. Из доисторического быта на славяно-литовской границе. Вильно, 1894. С. 4.
[17] Писаренко Ю. Г. О значении местного названия кургана Волотовка // Актуальные проблемы историко-археологических исследований. Тезисы докладов. Киев, 1987. С. 129.
[18] Каспяровіч М. І. Валатоўкі і звязаныя з імі перажыткі (першапачатковыя вынікі даследавання) // Наш край. 1929. № 6—7. С. 84—89; Ясінскі А. Два словы аб волатах (да праблемы першапачатковага насельніцтва Беларусі) // Запіскі аддзелу гуманітарных навук. Працы класа гісторыі. Мн., 1929. Т. 3. Кн. 8. С. 201—216; Герашчака Ю. Аб найменнях «Гуды», «Крывічы», «Русь» // Крывіч. 1923. № 1. С. 19; Гринблат М. Я. Белорусская советская этнография за 30 лет // Советская этнография. 1948. № 2. С. 219—225.
[19] Сергеева З. М. Народные названия курганов на северо-востоке Белоруссии // Древности славян и Руси. М., 1988. С. 67—72.
[20] Кусцинский М. Из заметок о курганах Лепельского уезда // Полоцкие епархиальные ведомости. 1903. № 7. С. 232—235.
[21] Кухаренко Ю. В. Пинские курганы // Славяне и Русь. М., 1968. С. 87—90.
[22] Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств. Вильна, 1884. С. 665.

3.

[1] Мялешка М. Камень у вераваннях і паданнях беларуса. Мн., 1929.
[2] Baruch M. Boze Stopki. Warszawa, 1907.
[3] Легенды і паданні. Мн., 1983; Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов (Этно-

графический очерк). Гродно, 1895; В-т. Аб камнях-краўцах // Крывіч. 1923. № 6. С. 46—47.
4 Васілеўскі Д. З матэр'ялаў да археалагічнай карты Аршанскай акругі // Наш край. 1926. № 6—7 (9—10). С. 64.

4.

1 Соколова В. К. Типы восточнославянских топонимических преданий // Славянский фольклор. М., 1972. С. 225.
2 Доленга-Ходаковский З. Я. Донесения о первых успехах путешествия в России // Русский исторический сборник. М., 1844. Т. 7. С. 342—346.
3 Липец П. С. Образ тура и отголоски его культа в былинах // Славянский фольклор. М., 1972. С. 82—109.
4 Отчет Императорской археологической комиссии за 1905 год. М., 1909. С. 96—100.
5 Ивакин Г. Ю. Священный дуб Перуна // Древности Среднего Поднепровья. Киев, 1981. С. 124—136.
6 Седов В. В. К происхождению белорусов // Советская этнография. 1967. № 2. С. 123—124.
7 Нікольскі Н. М. Жывёлы ў звычаях, абрадах і вераваннях беларускага сялянства // Працы секцыі этнаграфіі. Вып. 3. Мн., 1933; Соколова З. П. Культ животных в религиях. М., 1972.
8 Ткачев М. А. Замки Белоруссии. Мн., 1987.
9 Хроника Г. Вартберга // Сб. материалов и статей по истории Прибалтийского края. Рига, 1879. Т. 2.
10 Соколова В. К. О некоторых типах исторических преданий (к проблеме их жанрового своеобразия) // История, культура, фольклор и этнография славянских народов. VI Международный съезд славистов (Доклады советской делегации). М., 1968. С. 248—273.
11 Довгялло Д. И. Петр Великий в Северо-Западном крае в 1705 году. Вильно, 1904.

5.

1 Касьпяровіч М. Валатоўкі і звязаныя з імі перажыткі (першапачатковыя вынікі даследавання) // Наш край. 1929. № 6—7. С. 84—89; Ё н ж а. Вывучэнне валатовак на Чэрвеньшчыне // Наш край. 1929. № 4 (43). С. 67.
2 Дучыц Л. У. Да пытання аб познесярэдневяковых курганах Паўночнай Беларусі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. № 4. С. 77—83.
3 Отчет Императорской археологической комиссии за 1905 год. Спб., 1908. С. 80.

[1] Историко-юридические материалы. 1891. Вып. 22. С. 469; Историко-юридические материалы. 1894. Вып. 25. С. 338, 342.

[2] Историко-юридические материалы. 1891. Вып. 22. С. 472, 509—510.

[3] Як правіла, паданні пра гарадзішчы з назвай «Акоп» звязаны з Кацярынай II.

[4] А у н М. Курганные могильники Восточной Эстонии во второй половине 1-го тысячелетия н. э. Таллинн, 1980. С. 5.

## ЗМЕСТ

Навукова-папулярнае выданне

Дучыц Людміла Уладзіміраўна

АРХЕАЛАГІЧНЫЯ
ПОМНІКІ
Ў НАЗВАХ,
ВЕРАВАННЯХ
І ПАДАННЯХ
БЕЛАРУСАЎ

Загадчык рэдакцыі *А. І. Валахановіч*
Рэдактар *Л. М. Салаўёва*
Мастак *Г. А. Шышкін*
Мастацкі рэдактар *Л. М. Гоманаў*
Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен*
Карэктар *З. Я. Губашына*

Здадзена ў набор 09.06.93. Падпісана ў друк 05.10.93.
Фармат 84 × 108 1/32. Папера газетная.
Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 3,36.
Ум. фарб.-адб. 3,68. Ул.-выд. арк. 2,63. Тыраж 7760 экз.
Зак. № 636. Цана 250 р.

Выдавецтва "Навука і тэхніка" Акадэміі навук Беларусі
і Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
220141. Мінск. Жодзінская, 18. ЛВ № 437.
Друкарня імя Францыска Скарыны
выдавецтва "Навука і тэхніка".
220141. Мінск. Жодзінская, 18.

Дучыц Л. У.
Д85 Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў / Пад рэд. М. А. Ткачова. — Мн.: Навука і тэхніка, 1993. — 59 с.: іл.
ISBN 5-343-01292-2.

Разглядаюцца археалагічныя помнікі ў народным уяўленні ў розныя часы, зменлівасць мясцовых назваў у сувязі з гістарычнымі падзеямі. Паказваецца сувязь з язычніцкімі культамі, расказваецца аб павер'ях, даецца спіс народных назваў археалагічных помнікаў Беларусі.
Разлічана на масавага чытача.

Д $\frac{0504000000-122}{М 316(03)-93}$ 109—93 ББК 63.4(2Б)+81.2Бел

У выдавецтве

«НАВУКА І ТЭХНІКА»

*выйдуць кнігі:*

ЧАРНЯЎСКІ М. М., КУДРАШОЎ В. Я., ЛІПНІЦКАЯ В. Л.

СТАРАЖЫТНЫЯ ШАХЦЁРЫ НА РОСІ.

*Аб'ём 10 арк. Мова беларуская. Арыенціровачная цана 250 р.*

На падставе матэрыялаў, здабытых аўтарамі на працягу шматгадовых раскопак, усебакова разглядаецца Краснасельскі археалагічны комплекс каменнага і бронзавага вякоў, які ўключаў у сябе разнастайныя аб'екты гаспадарчага, жыллёвага і сакральнага характару — крэмнездабыўныя шахты, крэмнеапрацоўчыя майстэрні, сезонныя пасёлкі шахцёраў, стаянкі, могільнікі тутэйшага насельніцтва. Апісаны першыя жыхары рэгіёна, іх матэрыяльная і духоўная культура, выяўлены культурная прыналежнасць і храналогія старажытных помнікаў на Росі.

Кніга ілюстраваная:

Разлічана на археолагаў, гісторыкаў, музейных работнікаў, студэнтаў і выкладчыкаў, усіх аматараў беларускай старасветчыны.

САГАНОВІЧ Г. М.

**ВОЙСКА ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА Ў XVI—XVII стст.**

*Аб'ём 3 арк. Мова беларуская.*
*Арыенціровачная цана 350 р.*

На падставе дакументальных крыніц і малавядомых даследаванняў асвятляюцца гісторыя ўзброеных сіл Вялікага княства Літоўскага XVI—XVII стст., сістэма мабілізацыі і арганізацыя войска, віды вайсковых сіл і іх узбраенне. Асаблівая ўвага звяртаецца на вайсковыя фарміраванні з тэрыторыі Беларусі. Баяздольнасць наяўнага войска і эфектыўнасць абароны краіны паказваюцца на прыкладзе шэрага войскаў.

Кніга ілюстраваная.

Разлічана на шырокае кола чытачоў.

